ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№10 (67)
кастрычнік 2016 год
CATHOLICNEWS.BY

# Біскуп Алег Буткевіч наведаў з візітацыяй парафію ў Наваполацку


Стар. 3

## Беларускі дыякан у Камеруне, або Як выглядае штодзённасць місіянера?


Стар. 6

## Спіс адпустаў. Калі і за што можна атрымаць адпуст?


Стар. 2

## Беларускі дыякан распавядае пра падарожжа ў Бэтлеем


Стар. 8

## Чаму Касцёл не можа растлумачыць прычыны няшчасцяў, а экстрасэнсы могуць?


Стар. 9

# СПІС АДПУСТАЎ

## Агульныя нормы (2008 г.)

1. Дыяцэзіяльны біскуп можа ўдзяліць у сваёй дыяцэзіі папскае бласлаўленне з поўным адпустам, ужываючы адпаведную формулу, тры разы на год у святы і ўрачыстасці, выбраныя ім. Гэтае бласлаўленне ўдзяляецца напрыканцы святой Імшы згодна з біскупскім цырыманіялам.

2. Дыяцэзіяльныя біскупы могуць вызначыць частковы адпуст усім вернікам на сваёй тэрыторыі, а таксама для вернікаў, якія падлягаюць іх юрысдыкцыі па-за ўласнай тэрыторыяй. Тое самае можа рабіць мітрапаліт для суфрагальных дыяцэзій.

3. Адпуст, які звязаны з канкрэтнай урачыстасцю (напрыклад, урачыстасць св. Апосталаў Пятра і Паўла), можа быць перанесены на той дзень, калі гэтая ўрачыстасць адзначаецца (напрыклад, на нядзелю).

4. Калі гаворка ідзе пра адпуст за наведванне пэўнага месца ў пэўны дзень, то яго можна атрымаць ад поўдня папярэдняга дня да поўначы дня бягучага.

## Поўныя адпусты

**Адпусты, якія можна атрымліваць кожны дзень:**

1. За паўгадзінную Адарацыю Найсвяцейшага Сакраманта. За само наведванне – частковы адпуст.

2. За паўгадзіннае пабожнае чытанне Святога Пісання з належнай пашанай да Божага Слова і трактаванне гэтага дзеяння як духоўнага чытання. За кожнае чытанне Святога Пісання пры тых самых умовах, але за карацейшы час, – частковы адпуст.

3. За адпраўленне Крыжовага Шляху пры наступных умовах:

- трэба яе адпраўляць у тым месцы, дзе афіцыйна зацверджаны Крыжовы Шлях (касцёл, прыкасцельная тэрыторыя і г.д.);
- разважаць над мукай Пана Езуса; трэба пераходзіць ад адной да другой стацыі.

Калі Крыжовы шлях адпраўляецца публічна і няма магчымасці ўсім вернікам пераходзіць ад стацыі да стацыі, то дастаткова, каб пераходзіў вядоўца набажэнства або асоба з крыжам, а іншыя вернікі могуць застацца на сваіх месцах. Хто не можа такім чынам адправіць гэта набажэнства з-за аб'ектыўнай перашкоды (хвароба, падарожжа, закрыты касцёл і г.д.), таксама можа атрымаць поўны адпуст, калі па меншай меры на працягу паўгадзіны будзе пабожна чытаць або разважаць над мукай Пана.

4. За адмаўленне часткі Ружанца ў касцёле, публічнай капліцы, у сям'і, у законнай супольнасці, пры наступных умовах:

- трэба адгаварыць 5 таямніц без перапынку;
- да вуснай малітвы трэба дадаць разважанне над таямніцай Ружанца;
- пры публічным адмаўленні Ружанца трэба аб'яўляць назвы таямніц паводле прынятага звычаю.

**Адпусты, якія можна атрымліваць у вызначаных днях:**

1. За пабожнае публічнае прамаўленне гімна Veni, Creator 1 студзеня і ва ўрачыстасць Спаслання Духа Святога. У іншыя дні – частковы адпуст.

2. За пабожнае прамаўленне пасля прыняцця Святой Камуніі малітвы "Вось я..." перад абразом Езуса Укрыжаванага ў кожную пятніцу Вялікага посту. У іншыя дні году пры падобных умовах – частковы адпуст.

3. За пабожнае і ўрачыстае прамаўленне Tantum ergo Sacramentum з заклікам і малітвай у Вялікі Чацвер і ва ўрачыстасць Божага Цела. У іншыя дні – частковы адпуст.

4. За пабожны ўдзел у набажэнстве і за цалаванне Крыжа ў Вялікую Пятніцу.

5. За прамаўленне ў любой форме абяцанняў Святога Хросту падчас набажэнства ў Вялікую Суботу або ў гадавіну ўласнага хросту.

6. За пабожнае публічнае прамаўленне акту "Езу Найсалодшы" ва ўрачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса.

7. За пабожнае ўцалаванне прадмета рэлігійнага культу, пабласлаўлёнага Папам або біскупам ва ўрачыстасць святых апосталаў Пятра і Паўла пры дадатковым прамаўленні вызнання веры.

8. За пабожнае публічнае прамаўленне акта прысвячэння чалавечага роду Сэрцу Езуса ва ўрачыстасць Хрыста Валадара Сусвету. У іншыя дні – частковы адпуст.

9. За пабожнае адведванне могілак і адначасова малітву за памерлых, хаця б толькі ў думах, ад 1 да 8 лістапада. Гэты адпуст можна атрымаць штодзённа, але ахвяраваць яго толькі за памерлых.

10. За пабожнае наведванне касцёла або капліцы і за адмаўленне "Ойча наш" і "Веру ў Бога" ў памінальны дзень. Гэты адпуст можна ахвяраваць толькі за памерлых.

11. За публічнае прамаўленне гімна Te Deum у астатні дзень года як падзяка Богу за атрыманыя ласкі. За падзяку ў іншыя дні – частковы адпуст.

12. За прыняцце Першай Святой Камуніі або за ўдзел у цырымоніі Першай Святой Камуніі.

13. Поўны адпуст можа атрымаць святар, калі цэлебруе Першую святую Імшу, а таксама вернікі, якія ў ёй удзельнічаюць.

14. За ўдзел па рэлігійных пабуджэннях у эўхарыстычным набажэнстве на заканчэнне Эўхарыстычнага Кангрэса.

15. За адпраўленне рэкалекцый, якія трываюць па меншай меры тры дні.

16. За пабожны ўдзел у некалькіх місійных навуках і ва ўрачыстым іх завяршэнні.

17. За пабожнае прыняцце папскага бласлаўлення Urbi et Orbi нават праз радыё і тэлебачанне.

18. За пабожнае наведванне адной з большых базілік у Рыме ва ўрачыстасць апекуна Базілікі, у кожную абавязковую ўрачыстасць і раз у год у любы абраны вернікам дзень.

19. За ўдзел у ранішнім або вячэрнім набажэнстве ў стацыйным касцёле ў Рыме ў дзень, вызначаны ў Рымскім Імшале.

20. За ўдзел у набажэнстве падчас пастырскай візітацыі.

21. За наведванне парафіяльнага касцёла ў дзень тытулярнага свята і 2 жніўня (Маці Божай Анёльскай).

22. За наведванне касцёла, дзе адбываецца дыяцэзіяльны сінод.

23. За пабожнае наведванне касцёла або алтара ў дзень яго кансэкрацыі.

24. За пабожнае наведванне законнага касцёла або капліцы ў дзень свята заснавальніка закона.

*Падрыхтаваў*
*кс. Дзмітрый Пухальскі, Мінск*



# Біскуп Алег Буткевіч:
# “КОЖНЫ З НАС – ГЭТА ЦУД БОЖЫ”

**Гэтыя словы кіраўнік Віцебскай дыяцэзіі прамовіў 9 кастрычніка падчас візітацыі ў Наваполацку.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*



Іерарх падкрэсліў, што ён прыехаў у Наваполацк з пачуццём радасці і хвалявання, бо менавіта тут 16 гадоў таму ён распачаў сваю святарскую службу ў якасці вікарыя. Дарэчы, пробашчам парафіі ў той час быў ксёндз Аляксандр Чайкоўскі, які і зараз кіруе парафіяй у Наваполацку.

– Тады я нават не спадзяваўся, – сказаў ва ўступным слове біскуп, – што праз 16 гадоў я прыеду сюды да свайго былога пробашча з візітацыяй у сане біскупа. Але, відаць, Пан Бог вялікі жартаўнік, калі так сталася.

Пробашч парафіі ксёндз Аляксандр у сваю чаргу заўважыў, што гэта добры знак для наваполацкай парафіі, што менавіта з яе пачынаюць сваё святарскае служэнне будучыя кіраўнікі Каталіцкага Касцёла.

Дарэчы, калі тут пачынаў служыць ксёндз-вікарый Алег Буткевіч, сучаснага храма яшчэ не было. На яго месцы быў толькі вырыты катлаван. Зараз жа ў Наваполацку над Дзвіной стаіць прыгожая святыня. І ў гэтым вялікая заслуга пробашча парафіі ксяндза Аляксандра Чайкоўскага.

Святая Імша ў Наваполацку пачалася а 12-й гадзіне, яе ўзначаліў біскуп Алег Буткевіч. Напачатку ён асвяціў вернікаў святой вадой. Варта адзначыць, што святыня была ў гэты дзень цалкам запоўненая парафіянамі.

У сваім слове да прысутных біскуп звярнуў увагу на наша ўспрыманне Божых цудаў. Шмат якія рэчы, што з намі адбываюцца ў штодзённым жыцці, мы лічым звычайнымі, будзённымі, не бачачы ў іх Божага провіду. Мы чакаем ад Бога цудаў, маючы на ўвазе нешта незвычайнае. А цуды – яны побач! Кожны з нас паасобку – гэта таксама цуд Божы.

У якасці прыкладу біскуп прывёў словы Евангелля, што прагучалі падчас Імшы, пра аздараўленне Езусам дзесяці пракажоных. І толькі адзін з іх падзякаваў Езусу за сваё выздараўленне, а дзевяць палічылі гэта звычайнай справай.

Іерарх адзначыў, што шмат хто ўспрымае сённяшні свет як вынік эвалюцыі, каторая развіваецца выпадкова. “Але разбярыце гадзіннік, а потым чакайце, калі гэтыя часткі зноў выпадкова збяруцца ў цэлы механізм, – заўважыў біскуп. – Можна чакаць мільёны гадоў, але гадзіннік не пойдзе, бо трэба майстар. Так і з узнікненнем свету: тут патрэбна была вышэйшая воля”.

Біскуп таксама заклікаў не звяртацца да паслугаў розных знахароў, экстрасэнсаў, бо невядома, якой сілай яны карыстаюцца. І хутчэй за ўсё, не Божай. А мы павінны ў першую чаргу дбаць пра збаўленне сваёй душы, бо яна створаная для вечнасці.

Напрыканцы гаміліі іерарх заклікаў не палохацца сваіх памылак, выпраўляць іх і далей крочыць па жыцці. А пасля казання ён удзяліў сакрамант канфірмацыі, або хрысціянскай сталасці некальким дзясяткам вернікаў.

Радуе тое, што гэты сакрамант прыняло шмат маладых людзей, ды і наогул моладзі ў святыні было шмат. Нездарма ж Наваполацк называюць маладзевым горадам!

Напрыканцы Імшы ў касцёле былі асвечаныя новыя абраз у галоўным алтары, стацыі Крыжовага шляху, крыж пры ўваходзе ў святыню і барэльефы на ўваходных дзвярах.

Закончылася ж богаслужэнне спевам гімна “Магутны Божа”.

# 99-я ўгодкі заканчэння Фацімскіх аб’яўленняў Маці Божай адзначылі ў Шуміліне

**На ўрачыстасць прыбылі біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч, Апостальскі візітатар для грэка-католікаў у Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек, святары, сёстры законныя, пілігрымы з Віцебска, Полацка, Наваполацка, Глыбокага, іншых месцаў, а таксама, безумоўна, парафіяне з Шуміліна.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*



У гэтыя дні вернікі адзначылі некалькі юбілеяў і гадавін: 17 гадоў Віцебскай дыяцэзіі, 420 гадоў з часу падпісання Берасцейскай царкоўнай уніі, таксама сёлета супольнасць айцоў-аблатаў адзначае 200-годдзе заснавання ордэна.

Святая Імша распачалася а васямнаццатай гадзіне. Перад богаслужэннем грэка-каталіцкі хор выканаў акафіст – хвалебныя царкоўныя спевы ў гонар Езуса Хрыста, Багародзіцы і святых, якія выконваюцца стоячы.

Святую Імшу ўзначаліў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. Слова да вернікаў прамовіў архімандрыт Сяргей Гаек. У гаміліі ён звярнуў увагу, што гісторыю уніяцкай царквы трэба разглядаць не ад 1596 года, калі была падпісана ўнія, а ад значна ранейшага часу, ад першых хрысціянскіх цэркваў. А падпісанне ўніі было адной са спробаў пазбегнуць падзелу хрысціян на праваслаўных і католікаў, каб усе былі адно, як наказваў Езус Хрыстус.

Архімандрыт таксама нагадаў, што ў грэка-католікаў і рыма-католікаў шмат агульнага. У якасці прыкладу ён узгадаў ікону Маці Божай Валадаркі азёраў, якая напісаная ва ўсходняй традыцыі, але знаходзіцца ў рыма-каталіцкім касцёле і аднолькава шануецца як рыма-католікамі, так і грэка-католікамі.

Падчас казання архімандрыт павіншаваў біскупа Алега Буткевіча з 17-й гадавінай утварэння Віцебскай дыяцэзіі і падараваў яму фігурку Езуса Хрыста чорнага колеру, якая была прывезена з Афрыкі. Такую ж чорную фігурку Маці Божай архімандрыт уручыў пробашчу касцёла ў Шуміліне айцу Анджэю Юхневічу.

Завяршыліся ж святкаванні працэсіяй вакол касцёла, падчас якой вернікі маліліся на ружанцы і разважалі над таямніцамі Святла. Прычым малітвы былі як паводле заходняга абраду, так і паводле ўсходняга. Падчас гэтай малітвы вернікі трымалі ў руках запаленыя свечкі, таму працэсія вельмі прыгожа выглядала ў вечаровай цемені. А пасля працэсіі ўсіх чакаў пачастунак, у якім прынялі ўдзел вернікі разам са святарамі.

Дарэчы, у наступным годзе будзе адзначацца стагадовы юбілей Фацімскіх аб’яўленняў Маці Божай. З гэтай нагоды з Фацімы ў мінскую архікатэдру прыбыла фігура Маці Божай Фацімскай, якая знаходзілася тут да 16 кастрычніка. Пасля гэтага пачалося яе падарожжа па парафіях Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, а затым і па парафіях іншых дыяцэзій.

# Касцёл у Уле

**Сучасны агрaгарадок, а ў мінулым мястэчка, Ула знаходзіцца на паўночным захадзе Бешанковіцкага раёна.**

**Станіслаў Леаненка**

Шырокую вядомасць ён атрымаў у часы Лівонскай вайны, калі тут па загаду рускага цара Івана IV быў пабудаваны магутны замак, каля якога адбываліся жорсткія вайсковыя сутыкненні.

У верасні 1568 года польны гетман Раман Сангушка, захапіў і спаліў замак, які пасля гэтага заставаўся ў літоўскіх руках.

У 1580 годзе наведаў Улу кароль Рэчы Паспалітай Сцяпан Батура. Агледзеўшы адноўлены замак, ён загадаў яго ўзмацніць і трымаць у доглядзе.

Ульскі замак праіснаваў да сярэдзіны 17 стагоддзя. У 1654 годзе ён быў захоплены і ўшчэнт разбураны рускімі войскамі. Але месца пустым не засталося.

Пасля заканчэння вайны, у 1669 годзе, на яго руінах Яўстафі Лукомскі, каралеўскі сакратар і Браніслаў Прысецкі, войт вількамірскі, пабудавалі драўляны касцёл пад тытулам Святога Духа і аддалі яго манахам – дамініканам, на ўтрыманне якіх, быў выдзелены невялікі маёнтак.

У 1782 годзе адзін са спадкаемцаў фундатара Прысецкага забраў ад айцоў дамініканаў маёнтак, і тыя вымушаны былі пераехаць у Чашнікі. Але ў 1800 годзе чарговы ўладальнік Улы Ігнацы Рэут, маршалак шляхты Лепельскага павету, аднавіў зямельнае дараванне касцёлу, а арцыбіскуп магілёўскі Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч зацвердзіў яго як парафіяльны.

Ульская парафія ахоплівала 14 валасцей, 8 фальваркаў і 54 вёскі ў Лепельскім і Полацкім паветах. Польскі геаграфічны слоўнік, надрукаваны ў канцы XIX стагоддзя, пералічвае усіх ксяндзоў Ульскага парафіі, гэта – Францішак Вейла, Антон Латкоўскі, Караль Зубчыцкі, Антон Сушынскі, Ян Альхімовіч, Ежы Шыманскі, Павел Вікеровіч, Ян Кучынскі, Францішак Рачкоўскі, Габрыэль Анашка, Шымон Якусевіч, Ежы Мотуз і інш.

У 1853 годзе ксяндзы Шымон Якусевіч і Ежы Мотуз распачалі будаўніцтва новага цаглянага касцёла пад тытулам Святога Лукі, які быў узведзены на месцы старога драўлянага ў 1864 годзе.

Знакаміты даследчык Язафат Жыскар у кнізе “Нашы касцёлы”, выдадзенай у 1913 годзе піша: “Пабудаваць касцёл атрымалася праз неверагодныя высілкі кс. Матуза. Незвычайны гэта быў чалавек. Просты, можа троху сярмяжны, жыў толькі дзеля сваёй ідэі. Касцёл, парафія былі адзінай мэтай жыцця – пакладаў на гэта ўсе працы і малітвы. Разумеў ён людзей, разумелі і любілі яго парафіяне. Як бацька караў непаслухмяных, выскачак, дбаў пра прыгожае набажэнства, сам вучыў людзей чытаць, цэлымі гадзінамі праседжваў у касцёле на ўслонах, навучаючы людзей спяваць. І плён яго працы застаўся багаты – сёння ўся парафія ўмее чытаць і спявае найлепей у ваколіцы...”

Пабываў у Уле знакаміты і нястомны мастак Напалеон Орда, які пакінуў нам цудоўны малюнак касцёла, зроблены ў 1876 годзе.

У сакавіку 1882 года, падчас вялікага пажару ульскі касцёл моцна пацярпеў. Згарэў яго дах, столь, арган і шмат чаго іншага, але храм хутка адрамантавалі, а вясной 1914 года па ініцыятыве тагачаснага пробашча Тэадора Кулікоўскага распачаўся капітальны рамонт. Прычым мясцовыя парафіяне абкладіся дабраахвотным падаткам і ў валаснoй управе зрабілі пра гэта юрыдычны запіс. На гэты час ульская парафіі налічвала 4860 вернікаў-католікаў і яна была адной з найвялікшых у межах Магілёўскай архідыяцэзіі.

Звернемся зноў да Язафата Жыскара, які з захапленнем піша: “Дзіўныя ўражанні выклікае касцёл у святочныя дні. Багабойны беларус з ахвотаю наведвае святыню. У шэрых сярмягах жанчыны, з хусткамі на галавах, летам найчасцей у лапцях, перапаўняюць касцёл. Поўна іх у свята ад самага ранку, дзе манатонным спевам праслаўляюць Пана над Панамі. А колькі ў тым спеве надзеі і смутку, што здаецца, уся людская душа ў їм адбіваецца...у касцёле ўсё дыхае традыцыяй. Бачым алтары з вельмі старажытнымі абразамі, як напрыклад, абраз Маці Божай у срэбных шатах. Злева вельмі стары абраз св. Антонія...”

У далейшым касцёлу не вельмі шчасціла. Ён моцна пацярпеў у час Вялікай Айчыннай вайны. Захаваны будынак касцёла моцна пацярпеў ад пажару ў 60-я гады, калі стаяў без прыгляду. Але мясцовыя вернікі не скарыліся лёсу.

Духоўнае жыццё пачало адраджацца ў 1992 годзе, калі зноў была зарэгістравана парафія Святой Тройцы. Мясцовае каталіцкае насельніцтва, а на гэты час яно складала 1000 чалавек, пачало аднаўленне касцёла. З 1999 года ён зноў прымае вернікаў і вабіць вока сваім прыгожым выглядам. Вось бы так зрабіць і з іншымі нашымі помнікамі!



**Ула. Парафіяльны касцёл. 1875—1876 гг. Выгляд асноўнага і бакавога фасадаў з боку ракі Уланкі. Двухвежавы будынак касцёла.**

**Надпіс:** *1775 г. Тарэса з Сухадольскіх Кашыц. Ула. Упадзенне Улянкі ў Дзвіну. Касцёл на Старым замчышчы і могілках... (неразборліва.— Аўт.). Надпіс на падкладцы: Віцебская г[уберня]. Ула пры ўпадзенні Улянкі ў Дзвіну. Абарончы замак, узведзены Іванам Жахлівым (Грозным). У 1568 г. захоплены і разбураны літоўскім поль[ным] гетманам к[нязем] Раманам Сангушкам. Аднаўлены і ўмацаваны Сцяпанам Батурам, у 1579 г. узведзены парафіяльны касцёл, уфундаваны Ігнаціем Рэўтам, стаіць на месцы, абкружаным валамі, дзе некалі знаходзіўся замак.*

**Малюнак алоўкам, падпраўлены акварэллю. 19,4х29. ІІІ-г. а. 4120 (Teka Witebska). MNK.**



**Хрысціян Вільгельм Фабэр дзю Фор “Лагер каля Вулы 26 ліпеня 1812 года” (на заднім плане касцёл Святога Духа)**



**Ула, касцёл Святой Тройцы** *(сучасны выгляд)*

# Вышыванкі

**Усё больш у Беларусі можна заўважыць пэўную тэндэнцыю або, проста кажучы, моду. Беларусы, асабліва моладзь, упарта шукаючы сваёй тоеснасці, сваіх каранёў, звяртаюцца да паганскіх сімвалаў. Мы бачым усё большае захапленне вышыванкамі, некаторыя нават, аддаючы даніну модзе, набіваюць гэтыя сімвалы на сваім целе.**

**а. Віталь Сапега**, *дамініканін, Віцебск*

Вядома, што размаляванае людское цела ў старажытнасці несла нейкую інфармацыю і для тых, хто меў пэўныя вывы, і для тых, хто іх бачыў. У большасці гэта быў сакральны або ваенны кантэкст. Біблія выразна адмоўна ставіцца да такой практыкі (кн. Лявіта 19, 28; кн. Другазаконня 14, 1). Аднак у гэтым артыкуле мы не будзем падрабязна раскрываць духоўныя пагрозы татуявання цела, а толькі звернемся да старажытных паганскіх сімвалаў.

## Уплывы паганства

Вядома, нашыя продкі, плямёны, якія жылі на тэрыторыі сучаснай Беларусі, ці гэта б былі крывічы, дрыгавічы, радзімічы або яцвягі, хаця і былі паганцамі, але ўсё ж такі іх можна лічыць плямёнамі рэлігійнымі. Трэба заўважыць, што сёння таксама цяжка знайсці на зямлі якое-небудзь яшчэ існае арэлігійнае племя. Чалавек па сваёй сутнасці з'яўляецца істотай рэлігійнай. Нашыя продкі верылі ў жыццё пасля смерці. Пра што, зрэшты, сведчаць розныя бытавыя і вайсковыя прадметы, знойдзеныя ў пахаваннях, або да сёння захаваны звычай, асіміляваны ва Ўсходняй Царкве: прынашэнне і нават падсілкоўванне на могілках рознымі стравамі (у праваслаўных – на свята Радуніцы, у дзень успаміну памерлых). Ва ўсім гэтым прасочваецца сувязь з памерлымі, а значыць, і вера ў жыццё вечнае.

Была ў нашых продкаў таксама вера ва ўваскрашэнне целаў. Няпроста так пахаванні мелі курганавы выгляд. Некаторыя даследчыкі-рэлігіязнаўцы кажуць пра такую з'яву, якая паявілася менавіта ў канцы мегалітычнага перыяду, называючы яе англійскім словам fat lady, што літаральна перакладаецца як "поўная жанчына", але метафарычна, на думку даследчыкаў, fat lady сімвалізуе жанчыну, якая чакае дзіця. Кожны можа здагадацца, што ў гэтым новым нараджэнні закладзеная думка пра ўваскрашэнне целаў. Гэта значыць, што ў нашых продкаў была вера ў тое, што пахаванае цела калісьці ўваскрэсне, злучыцца з душою і чалавек народзіцца да новага жыцця. Дарэчы, водгукам пра гэтую з'яву ў Беларусі захавалася традыцыя рабіць могілкі з насыпкай.

## Капішчы і паганскія багі

Так, нашыя продкі былі рэлігійныя, і часам мелі вельмі добрую інтуіцыю. Але ўсё ж такі ў большасці іх веравanні былі паганскія, бесаўскія. Пакланяліся яны выдуманым імі розным ідалам, як, напрыклад, галоўнаму богу Перуну, ствральніку маланкі, грому і дажджу, а таксама апекуну вайны. Далей складалі яны ахвяраванні ніжэйшым рангам трыццаці іншым ідалам: Белабогу – галоўнаму богу неба, Белуну – богу зямлі, Вялесу – апекуну жрацоў і дамашняй скаціны, Жыжэлю – богу агню, Жыценю – богу восені, Карачуну – богу смерці, Кону і Радзе – багам чалавечага лёса, Шчадрацу – богу вяселля, Ярылу – апекуну ўраджайнасці, Купалу – богу добрага выбару сужэнца... Канешне, першабытны чалавек, як, зрэшты, і яго сучаснік, прагнуў быць багатым, шчаслівым і таму звяртаўся па дапамогу, не падазраючы нават, што вельмі часта за тымі "багамі" хаваліся дэманы.

Хіба не трэба тут нагадваць, што ў розных кутках Беларусі захаваліся паганскія ахвярнікі-камяні, на якіх, паміж іншым, прыносілі ў ахвяру сваіх жа дзяцей. Наша зямля проста кішэла ад паганскіх капішчаў. І звычайна хрысціянства вельмі цяжка прабівалася праз гэтыя паганскія звычаі. Як падаюць гісторыкі, апошняе такое капішча існавала ў Мінску ажно да 1904 г., і займалася гэтай паганскай святыняй сям'я прафесійных дынастычных чараўнікоў. У такіх месцах звычайна гарэў увесь час агонь, бывала, знаходзіўся там вуж, якога сілкавалі малаком і, безумоўна, былі розныя выявы або, лепш сказаць, закадаваныя ў сімвалах ідалы. Гэтыя сімвалы пакідалі таксама на полі, трымалі ў хаце або нашывалі сабе на вопратцы, звычайна вакол шыі, як абярэг, "абарону ад зла".

Раней ужо гаварылася, што сімвал – гэта не проста знак, які накіроўвае да нейкай рэчаіснасці, але ён аўтаматычна ўключае ў гэтую рэчаіснасць таго, хто свядома ці несвядома карыстаецца ім. Нездарма з прыходам хрысціянства ўсе паганскія сімвалы замяняліся хрысціянскімі, ці гэта б былі гербы гарадоў, ці беларускі нацыянальны бел-чырвоны-белы сцяг, які, дарэчы, дагэтуль знаходзіцца на літургічным аддзенні архірэяў Усходняй Царквы і сімвалізуе абяленне душы чалавечай Кроўю Хрыста.



## Вяртанне да хрысціянскіх каранёў

Таму, беручы пад увагу ўвесь гэты гістарычны кантэкст, вернікаў турбуе, што сёння гэтыя паганскія сімвалы з хуткасцю святла распаўсюджваюцца ў грамадстве не толькі сярод маладых людзей, але і ў дзяржаўнай сімволіцы. Варта ўспомніць пра новыя манетарныя грошы або дзяржаўны сцяг. Іх, на жаль, можна сустрэць таксама сярод прадстаўнікоў Каталіцкага Касцёла і звычайна на літургічным адзенні! Святы Папа, Ян Павел II, пілігрымуючы ў свой час у Францыю, заклікаў грамадзян гэтай краіны вярнуцца да сваіх каранёў, да хрысціянскіх. Гэта, безумоўна, датычылася не толькі Францыі, але і ўсёй Еўропы, гэта тычыцца таксама і нас, нашчадкаў Вялікага Княства Літоўскага. Езус прынёс нам святло, прынёс надзею, каб мы не жылі ўжо ў страху і цемры і не знаходзіліся пад дэманскаю ўладаю. Вядома таксама, што кожны народ, які глыбока прыняў Слова Божае, зрабіў у будучым якасны цывілізацыйны і культурны скачок. Таму ці не варта было б нам, грамадзянам Беларусі, усё больш і глыбей вяртацца таксама да сваіх каранёў, да хрысціянскіх? І, канешне, думаць, якімі сімваламі ці выявамі мы карыстаемся.





**Дарагія сябры!**

**З'явілася новая магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам усяго 2 рублі, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!**

**Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Дасласць у якасці ахвяравання 2 рублі можна, зрабіўшы наступнае:**

**1. Адпраўце USSD-запыт наступнага зместу:**
***363*375295105172*2#**

**2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.**

**3. Дашліце USSD-запыт наступнага зместу:**
***363*[код пацвярджэння]#**

**4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумара 364. З балансу Вашага тэлефона будуць спісаныя 2 рублі.**

**Увага!**

**Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 2 рублі. Каб даслаць большую суму, неабходна паўтарыць аперацыю.**

**Рэдакцыя можа атрымаць не больш за 10 рублёў за каляндарныя суткі. Калі Вам прыйшло паведамленне пра памылку, калі ласка, дашліце ахвяраванне яшчэ раз або паўтарыце яго на наступны дзень.**

**Вялікі дзякуй за ахвяраванні на падтрымку газеты "Каталіцкі Веснік"! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!**

***Рэдакцыя газеты "Каталіцкі Веснік"***

# БЕЛАРУСКІ ДЫЯКАН У КАМЕРУНЕ,

## або Як выглядае штодзённасць місіянера?



**З невялікім заплечнікам асабістых рэчаў і з дзвюма вялікімі сумкамі падарункаў для дзяцей дыякан Анджэй Ганчар прыляцеў у горад Яўндэ, сталіцу Камеруна. Тут ён будзе на працягу года аказваць дапамогу ў дзіцячым прытулку.**

**Пра пачатак свайго служэння ў Афрыцы дыякан распавёў "Каталіцкаму Весніку".**

– Сярод падарункаў, якія я прывёз для дзяцей, ёсць адзенне, абутак, сшыткі, алоўкі, і 25 кг гаспадарчага мыла. Усё гэта сабрана дзякуючы Вам, дарагія браты і сёстры! Я вельмі ўдзячны Богу за Ваша адкрытае сэрца для тых, хто мае патрэбу, – гаворыць дыякан на пачатку размовы чытачам "Каталіцкага Весніка" і тым вернікам, што аказалі фінансавую дапамогу.

– У нас больш за тыдзень не было святла. Перарэзалі правады. Даводзілася жыць без электраэнергіі. Айцец Дарыюш падключыў генератар, які пасля двух дзён выйшаў са строю і сам аўтаматычна пераключыўся на 380 В. Усё, што было далучана да сеткі, – згарэла. Я хачу падзякаваць таксама ўсім святарам, якім напісаў пра гэтае здарэнне ў нашым доме, за матэрыяльную дапамогу і малітоўную падтрымку, – дадае дк. Анджэй.

**– Якія першыя ўражані ад сустрэчы з Камерунам?** – *пытаюся ў дыякана.*

– Палёт у Яўндэ, сталіцу Камеруна, доўжыўся каля 10-ці гадзін. Гэта незабыўныя краявіды, асабліва дзве гадзіны над Сахарай. Ад аэрапорта да дзіцячага дома каля 15 хвілін трэба ехаць на машыне. Дабраліся. Перад намі адкрываюцца вялізныя жалезныя вароты.

Уражанні ад сустрэчы не перадаць словамі: смех, крык, танцы. Усе на мяне кінуліся. Такое адчуванне, што я з імі тут вырас, а некаторы час проста адсутнічаў. Пасля таго, як разгрузілі машыну, мяне адразу пачаставалі вячэрай з бананаў і кашы з лісця. Супер, праўда ўся кухня вельмі вострая. Затым танцы, дыскатэка да пяці раніцы, нягледзячы на тое, што пад'ём быў а шостай. На наступную раніцу ног і рук не адчуваеш. Дзень пачаўся са святой Імшы, затым сняданне і парадак дня. Усё як у войску! Айцец Дарыюш Гадава, які кіруе дзіцячым домам, паказаў мне мой пакой, расказаў пра законы і правілы.

**– А як выглядае звычайны дзень?**

– Кожны дзень я ўстаю а 4.30. Дзеці ўстаюць а 4.00. У кожага ёсць свае абавязкі: хто мыццём займаецца, хто дровы нарыхтоўвае, хто трусоў і галубоў корміць, хто мые падлогу. Усё робяць самі дзеці, як старэйшыя, так і малодшыя. А 6-й гадзіне раніцы святая Імша для ўсяго дзіцячага дома. На ёй усе абавязаны прысутнічаць. Затым дзеці збіраюць заплечнікі і выходзяць у школу. Вельмі цікава назіраць, як старэйшыя дапамагаюць сярэднім, а сярэднія збіраюць у школу зусім малых. Ва ўсіх ёсць школьная форма. У кожнай школы свой колер формы, але часам яе выдаюць не па памеры дзіцяці.

Пасля таго, як дзеткі адправяцца ў школу, для нас з а. Дарыюшам ёсць сціплы сняданак: два яйкі, хлеб і гарбата. Абеду няма, толькі сняданак і вячэра. Падчас сняданку вырашаем, што сёння трэба зрабіць: то агароджу для бананаў, то іншай фізічнай працы хапае.

Каля 15-ай гадзіны са школы прыходзяць дзеці. Яны адразу ж мыюць рукамі сваю школьную форму гаспадарчым мылам, некаторыя пасля мыцця таксама ў гэтай вадзе і купаюцца. Пасля кожнае дзіця глядзіць, што трэба яшчэ зрабіць.

**– А што калі дзеці не слухаюць?** – *цікаўлюся.*

Дзеці стараюцца выконваць свае абавязкі, бо ведаюць, што за непаслухмянасць або за нявыкананую працу атрымаюць пакаранне. Але не такое, што робяць нашы бацькі дзецям: забіраюць тэлефон або не дазваляюць глядзець тэлевізар. Часам



пакаранне можа выглядаць вельмі сурова. Напрыклад, некалькі гадзін трэба стаяць на каленях, у руках трымаючы аркуш з малітвай, якую пасля адбыцця свайго пакарання дзіця абавязана расказаць на памяць. Калі не – стаіць далей.

Айцец Дарыюш гаворыць, што па-іншаму не навучыш. А пасля гэтага яны айцу яшчэ і дзякуюць. Айцец вельмі сочыць за выхаваннем. Ён для дзяцей як маці і як бацька.

**– А чым канкрэтна Вы займаецеся?**

– Мая функцыя як дыякана – служыць пры алтары. Таксама айцец паставіў мяне адказным за хворых дзяцей. Прынёс мне лекі і гаворыць: "Інструкцыі па ўжыванні на французскай мове, чытай, вучыся і лячы", – і смяецца. У апошні час вельмі шмат дзетак хварэе.

**– Ужо больш за месяц Вы выконваеце валанцёрскую паслугу ў Камеруне. Чаму Вас вучыць гэтае служэнне?**

– Шмат хто задае мне пытанне: "Што ты там робіш? Загараеш?" Ведаеце, для мяне гэта новы этап у маім жыцці, які Бог для мяне падрыхтаваў. Missio – ад лац. "пасылка, даручэнне"). Місіянер – гэта воін на перадавой, які прадстаўляе інтарэсы Госпада і гатовы рабіць усё: купаць брудных дзяцей, мыць прыбіральні, капаць, будаваць, карміць, лячыць і рабіць усю руцінную працу, як для Госпада, каб паказаць прыклад іншым, нават калі не ведаеш дасканала французскай мовы *(усміхаецца)*. Я шчаслівы, што я тут, што магу служыць гэтым людзям.

Тут я сустракаюся са сваімі слабасцямі і таксама тут я вучуся пакоры, цярплівасці, міласэрнасці і проста вучуся радавацца кожнаму пражытаму дню.

Я ўдзячны Богу за тых, хто моліцца за місію, за місіянераў, хто дапамагае матэрыяльна. І нават гледзячы на фота, мы не адчуем таго, што перажываюць тут людзі, якія часта не маюць што з'есці ці нават адкуль узяць ваду. Але яны ўсе ўдзячныя Богу за кожны дзень. І гэтаму нам таксама трэба вучыцца.

*Гутарыла*
**Ірына Радзевіч**

**Дарагія чытачы!**
**Тыя з вас, хто хоча дапамагчы беларускаму семінарысту на місіі ў Камеруне, могуць гэта зрабіць, склаўшы ахвяраванне ў любым банку:**
Inteligo — Dariusz Godawa —
50 1020 5558 1111 1209 2800 0024 Platanowa 10/7 61-447
Poznan Kod BIC (swift) banku Inteligo: BPKOPLPW numer rachunku
Inteligo w formacie IBAN: PL50102055581111209280000024
adres banku: Powszechna Kasa Oszczędności Bank Polski SA
z siedzibą w Warszawie, ul. Puławska 15, 02-515 Warszawa





# Божая кара

– Сцяпанка, што ж ты робіш?! Бог жа пакарае! – крычала Ірэна, стоячы ля печы.

– Ды няма ніякага Бога, – са злосцю агрызнуўся Сцяпан, знімаючы са сцяны апошні абраз.

Ён прынёс усе абразы з хаты да калодкі, на якой звычайна шчапаў дровы, пасек іх на кавалкі, сабраў, зноў прынёс у хату і кінуў у печ. Была раніца, жонка якраз паліла ў печы, таму агонь хутка прыбраў ахвяры чалавечага вандалізму.

– Хоць бы Матку Боскую Вастрабрамскую пакінуў, – галасіла Ірэна, – гэты ж абраз я з дому прынесла, калі замуж ішла.

– Не трэба нам ніякіх тваіх матак, гэта ўсё перажыткі мінулага. Праз дваццаць гадоў пры камунізме будзем жыць, а ты тут са сваімі багамі, – крыкнуў на жонку Сцяпан. – Рэлігія – гэта опіум для народа, – выгукнуў, выходзячы з хаты. Гэтыя словы ён пачуў учора ад раённага начальніка на партыйным сходзе.

З печы за гэтай сцэнай са страхам назіралі дзве пары дзіцячых вачэй: хлопчыка гадоў сямі і пяцігадовай дзяўчынкі. Яны адчувалі, што робіцца нешта страшнае, бо ніхто ў вёсцы абразоў не выкідваў, а тым больш не сек іх і не паліў.

***

Сцяпан выйшаў з хаты, сеў на калодку, на якой пару хвілін таму сек абразы, і закурыў. "Вось жа дурныя людзі, вераць ва ўсё гэта, – думаў ён, – але нічога, пакрычыць, паплача жонка і перастане. Нечага верыць ва ўсе гэтыя забабоны".

Сцяпан паспеў закончыць чатыры класы яшчэ пры Польшчы, таму лічыўся ў вёсцы чалавекам адукаваным. У войска яго забралі вясной сорак пятага, таму на фронт ён трапіць не паспеў. Але паслужыць давялося... Пасля вайны не хапала замены, таму ў войску прыйшлося адбыць ажно шэсць гадоў. Але, калі разабрацца, гэта было не так і дрэнна. Там нядрэнна кармілі, у той час, калі тут, у вёсцы, людзям даводзілася пагаладаць. Там жа, у войску, ён уступіў у партыю, што таксама давала нейкія прывілеі ў службе.

Калі Сцяпан вярнуўся з войска, яго як чалавека партыйнага ды яшчэ граматнага прызначылі брыгадзірам у калгасе, які ўтварыўся два гады таму. Ну а брыгадзір у вёсцы – гэта далёка не апошні чалавек, таму тут таксама ў Сцяпана былі свае прывілеі. У хуткім часе ён пабудаваў сабе дом, ажаніўся, у іх з Ірэнай нарадзілася двое дзяцей: спачатку хлопчык, потым дзяўчынка.

Жонка настойвала, што трэба абвянчацца ў касцёле, Сцяпан ёй дужа не пярэчыў, хоць і быў ужо бязбожнікам. "Калі яна так ужо хоча, то хай будзе па-ейнаму, усе так робяць, я таксама пастаю ўжо тую гадзіну ў касцёле," – вырашыў ён. Таксама не пярэчыў, калі жонка хрысціла дзяцей, праўда, сам у гэтым удзелу амаль не прымаў, калі не лічыць замочку, якую ён ставіў для кумоў.

Наогул, трэба адзначыць, выпіць Сцяпан любіў, тым больш што праца брыгадзіра такія магчымасці давала. Таму амаль не было дня, каб ён не прыкладваўся да чаркі. Але не запіваў, пільнаваўся працы, таму з начальствам у гэтым плане ніякіх праблем не было. Ды і начальства, нават раённае, калі прыязджала ў вёску, было не супраць пасядзець за пляшкай і вясковай закуссю.

***

Вось і на ўчорашнім партыйным сходзе начальства засядзелася амаль да самай ночы. Абмяркоўвалі пастанову кіраўніцтва партыі па ўзмацненні барацьбы з рэлігійнымі перажыткамі. "Мікіта Сяргеевіч абяцаў да канца сямігодкі паказаць апошняга папа па тэлевізары, – казаў кіраўнік раённай партыйнай арганізацыі таварыш Воранаў, – таму, таварышы, трэба ўзмацніць барацьбу з рэлігіяй, і вы, камуністы, павінны быць тут прыкладам".

Пра тэлевізар Сцяпан меў даволі цьмянае ўяўленне, бо ў іх вёсцы не было яшчэ электрычнасці, але зразумеў, што наказ таварыша Хрушчова трэба выконваць, таму і вырашыў пачаць са сваёй сям'і.




**Рабочыя-чыгуначнікі чытаюць антырэлігійны артыкул. Масква, 1923 год**

***

Прайшоў амаль год з таго часу, як Сцяпан знішчыў абразы. Жонка паступова з гэтым зжыклася. Ды і не да таго было, яна хутка павінна была нарадзіць трэцяе дзіця.

– Ну ўжо яго я не дам табе ахрысціць, – паўтараў час ад часу Сцяпан. Жонка, ведаючы характар мужа, звычайна маўчала. "Ахрышчу, ён і ведаць не будзе", – думала Ірэна.

Але як толькі яна ўбачыла сына, якога нарадзіла, то адразу закрычала. У яго быў вялікі нос, галава няправільнай формы. Ірэна зразумела, што нарадзіўся калека, і адразу ўспомніла пра пасечаныя і спаленыя абразы. Але Сцяпан яе і слухаць не хацеў. "Гэта выпадковасць, бывае такое, не перажывай," – супакойваў ён жонку.

У вёсцы ж усе пацiху гаварылі, што Сцяпана так пакараў Бог за глумленне з абразоў. Гэта ўпэўненасць яшчэ больш узмацнілася, калі праз два гады Ірэна нарадзіла дзяўчынку. Яна нарадзілася таксама неразумнай.

Так і гадавалі іх Ірэна са Сцяпанам. Людзі ў наваколлі толькі і гаварылі, што іх пакараў Бог за тое, што Сцяпан выкінуў абразы. Праўда, Сцяпан да канца жыцця так і застаўся бязбожнікам. А пасля яго смерці Ірэна зноў павесіла ў хаце абразы.

Сваіх няпаўнавартасных дзяцей яна гадавала аж да самай сваёй смерці, пасля чаго іх забралі ў інтэрнат. Праўда, без матчынай апекі пражылі яны там нядоўга.

А ў навакольных вёсках і зараз памятаюць пра гэты выпадак і звязваюць яго з Божай карай за знішчаныя абразы.

*Паводле слоў сведкаў запісаў*
***Зміцер Лупач***

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета***
***"Каталіцкі Веснік"***
***вул. Савецкая, 1***
***211800***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 100 тысяч рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грэгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211800***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў ва ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя***
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

Каталіцкі ВЕСНІК
№10(67)
кастрычнік 2016 г.

# "Дом Супакою" і свіст сірыйскіх ракет: беларускі дыякан распавядае пра падарожжа ў Бэтлеем



**Беларускі дыякан Аляксей Паплёўка з Кангрэгацыі Місіянераў Святой Сям'і амаль месяц знаходзіўся ў прытулку "Дом Супакою" ("Home of Peace"), што ў Бэтлееме, горадзе, дзе нарадзіўся Езус. Пра свае падарожжа ён распавёў "Каталіцкаму Весніку".**

**– Раскажыце, калі ласка, як Вы патрапілі ў прытулак у Бэтлееме?**

– У прытулак я трапіў вельмі нечакана. Ёсць такі фонд "Залатая Ружа", чальцы якога арганізуюць перш за ўсё рэкалекцыі і падарожжы для святароў і кансэкраваных асоб. У гэтым годзе вырашылі арганізаваць прабыванне на Святой Зямлі для шасці семінарыстаў з мэтай паглыблення духоўнасці і біблійных ведаў. Пашчасціла і мне апынуцца сярод гэтых людзей.

**– А хто апякуецца прытулкам "Дом Супакою"?**

– Прытулак знаходзіцца ў Бэтлееме, месцы нарадзінаў Езуса. Невялікі гарадок на тэрыторыі Палесцінскай аўтаноміі, дзе большасць людзей – вызнаўцы ісламу. Прытулкам апякуюцца тры сястры Кангрэгацыі св. Альжбеты. Ордэн быў заснаваны ў 1842 годзе с. Кларай Вулф у Польшчы. Матывацыяй да заснавання, як і ў шматлікіх іншых ордэнаў, былі сацыяльныя патрэбы, што на пачатку XIX ст. сталі неверагодна вялікімі. Сёння сёстры працуюць у 19 краінах свету.

**– Каму менавіта дапамагаюць сёстры св. Альжбеты?**

– Сёстры займаюцца апекай самотных, хворых, старэйшых людзей і тых, хто патрабуе дапамогі, а таксама даглядаюць псіхічна хворых дзяцей у дамах апекі і прытулках. У дзіцячых садках займаюцца агульным і рэлігійным выхаваннем малых. Выконваюць таксама розныя заданні ў парафіях. Манахіні самі пра сябе кажуць: "Нашае заданне – паказваць людзям міласэрную любоў Айца".

У дзяцей, якімі апякуюцца сёстры, звычайна ёсць сем'і або прынамсі хтосьці з бацькоў. У прытулку яны прабываюць на працягу тыдня, але на выхадныя знаходзяцца ў сваіх дамах. Пусцее прытулак таксама і падчас канікулаў. Усе дзеці з хрысціянскіх сем'яў з Бэтлеема.

**– Колькі дзяцей знаходзіцца пад апекай сясцёр і якога яны ўзросту?**

– Пад апекай сясцёр – 20 чалавек ад 4-ох да 18-ці гадоў. Усе мясцовыя. Цікава, што дзіця павінна ва ўзросце 6-ці гадоў добра валодаць англійскай мовай, хоць асноўная мова – арабская. Сёстры часта таксама гавораць да дзяцей на польскай мове, таму некаторыя разумеюць і па-польску. Адна дзяўчынка, якой усяго 5 гадоў, выдатна размаўляе на англійскай, арабскай і польскай мовах, прычым не мае праблем, калі тры сястры адна за адной звяртаюцца да яе на трох розных мовах. Гэта для нас быў шок *(усміхаецца)*.

**– Якім чынам дзеці атрымліваюць адукацыю ў Бэтлееме?**

– Дзеці выхоўваюцца сёстрамі. Такім чынам атрымліваюць выхаванне як каталіцкае, так і свецкае. У той самы час яны вучацца ў школах, якія вядуць каталіцкія законныя кангрэгацыі. У гэтыя школы ходзяць таксама мусульмане, каторых, дарэчы, большасць. Вывучаюць тыя самыя прадметы, што і ў нас, хоць некаторыя дысцыпліны часта злучаюць у адзін прадмет. Адметна тое, што экзамены здае толькі каля 20% вучняў. Заняткі адбываюцца 5 разоў на тыдзень, але выхадныя не субота-нядзеля, а пятніца і нядзеля. Бо пятніца – гэта святочны дзень для мусульман, так як для нас нядзеля.

**– Раскажыце, калі ласка, як звычайна выглядае дзень у прытулку?**

– Сёстры прачынаюцца а 5-ай гадзіне на малітву, а ўжо а 5.30 будзяць дзяцей, якія пасля мыюцца і ідуць на сняданне. А 6.40 спецыяльны мікрааўтобус адвозіць іх у школу. Пакуль дзяцей няма, сёстры займаюцца рознымі справамі: часцей за ўсё адна прыбірае ў пакоях, другая рыхтуе абед, а трэцяя – дырэктар – працуе ў офісе. Дзеці а 13.30 вяртаюцца.

Пасля абеду яны маюць час на дамашняе заданне, адбываюцца якія-небудзь заняткі з адной з сясцёр. Ёсць таксама час на адпачынак на свежым паветры.

Пасля вячэры а 18.00 – Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту. Яна доўжыцца 10 хвілін, бо больш дзеці не могуць вытрымаць. Потым яны ідуць адпачываць у свае пакоі, а сёстры застаюцца на Адарацыі яшчэ нейкі час.

**– Чым менавіта Вы займаліся ў прытулку?**

– Гэты выезд быў прысвечаны ў першую чаргу паглыбленню нашай духоўнасці і ведаў. Але два тыдні мы з братамі, якія разам прыехалі, працавалі фізічна: чысцілі краты, пасля іх фарбавалі. Увесь дом у кратах, бо шмат крадзяжоў. Гучыць прасцей, чым выглядала сама праца. Бо тэмпература паветра дасягала 35-ці градусаў, плюс моцны вецер. Таму часамі фарба засыхала хутчэй, чым апыналася на фарбаваным аб'екце *(усміхаецца)*.

**– Які лёс чакае выпускнікоў інтэрната?**

– Пакідаюць інтэрнат тады, калі ўжо не патрабуюць дапамогі. Найстарэйшай дзяўчыне – 18 гадоў, але яна ўжо сама дапамагае як валанцёр. Кожны пасля экзаменаў стараецца паступіць у вышэйшую навучальную ўстанову або тэхнікум.

Прытулак дае ім усё, чаго патрабуюць. Гісторыі кожнага вельмі складаныя, і без прытулка яны маглі б не знайсці сваё месца ў свеце.

**– Што Вас найбольш уразіла падчас знаходжання ў Бэтлееме?**

– Мяне ўразіла тое, як моцна дзеці змяняюцца ў прытулку. Шмат мусульман хацела б сюды аддаць сваіх дзяцей, бо часта чуюць пра неверагодныя эфекты выхавання ў гэтым месцы. Кранулі розныя гісторыі, мноства гісторый з жыцця асобных дзяцей. Умовы жыцця ў дамах кепскія, бацькі не найлепшым чынам дбаюць пра сваіх дзяцей. Цікава, што дзецьмі больш займаюцца і цікавяцца таты, а не мамы.

Увогуле Палесціна моцна залежная ад Ізраіля. Напрыклад, Ізраіль дастаўляе Палесціне ваду, і абмежаванне на аднаго чалавека складае 50 літраў на дзень, у той час як на яўрэя – амаль што 300 літраў. Такіх дзіўных сітуацый можна шмат назваць, таму жыццё палесцінцаў не самае лёгкае. Акрамя гэтага, добра ведаем, што Сірыя, дзе ідзе вайна, мяжуе з Ізраілем. Аднаго дня мы паехалі ў горы Голан, 20-30 км ад мяжы з Сірыяй, і на ўласныя вушы чулі стрэлы, выбухі, свіст ракет. Гэта нас моцна кранула. Цяпер вайна для нас не нейкая абстракцыя, а рэчаіснасць. Тут вельмі моцны ўхіл на бяспеку, пра што сведчыць трохгадзінны кантроль у аэрапорце з капітальнымператрусам, які адбыўся, калі мы выляталі.







*Гутарыла*
***Ірына Радзевіч***

# Ці былі Вы хроснымі бацькамі?

**Хросныя бацькі – асобы, якія прымаюць адказнасць перад Богам за духоўнае выхаванне хросніка, дапамагаць яму на шляху хрысціянскага жыцця.**

**А ці былі Вы хросным бацькам або хроснай маці?**

*Падрыхтавала Ірына Радзевіч*

**Вольга Скур'ят:**

– Я з'яўляюся хроснай маці для двух хлопчыкаў. Я згодна з тым, што хросныя бацькі нясуць адказнасць за духоўнае выхаванне хросніка. Але, на жаль, не заўсёды бацькі пры выбары хросных для свайго дзіцяці на першае месца ставяць адносіны гэтых людзей да Бога. Часцей улічваюцца сяброўства, матэрыяльнае становішча, статус ці нават "хоць каго б знайсці".



**Аляксандр Сінкевіч:**

– Статус хроснага бацькі – гэта перш за ўсё дар, пакліканне, а тым часам і адказнасць. Беручы на сябе заданне хроснага бацькі, кожны з нас павінен імкнуцца паглыбляць веру і сувязь з Хрыстом у дзіцяці на працягу фармавання яго хрысціянскага жыцця. Хросным бацькам мне давялося стаць першы раз, калі ў маёй сястры нарадзілася дачка ў 2010 годзе. Тады, памятаю, мне нават давялося выбіраць для яе імя. Паколькі мы яе хрысцілі на ўрачыстасць Нараджэння св. Яна Хрысціцеля, то і імя выбралі адпаведнае – Яна. Я вельмі ганаруся, што стаў для яе хросным бацькам. Для мяне вялікая радасць назіраць, як у малым дзіцяці ўзрастаюць парасткі веры, пасеяныя падчас хросту. Са свайго боку я павінен імкнуцца рабіць усё магчымае, каб гэтыя далікатныя парасткі веры не загубіліся ў шматлікіх цернях сучаснага свету.



**Павел Герасімовіч:**

– Стаць хросным бацькам я марыў яшчэ са школьнага ўзросту. На той час мае брат і сястра, знаёмыя, равеснікі ўжо мелі сваіх хросных дзяцей. Такую ласку Бог падараваў, калі мне было 26 гадоў. За паўтарагадовы перыяд давялося быць тройчы хросным бацькам: двух хлопчыкаў і дзяўчынкі. Зараз на мне ляжыць адказнасць за іх рэлігійнае выхаванне. Лічу, што найлепшым падарункам для іх з'яўляецца час, праведзены разам: дзецям патрэбная ўвага! Набываю духоўную літаратуру пакуль што для іх старэйшых брацікаў і сястрычак, якой, спадзяюся, з цягам часу скарыстаюцца і мае хроснікі. У будучыні сваімі добрымі прыкладамі планую развіваць у іх любоў да Бога і людзей.



**Юлія Буйвідовіч:**

– Быць хроснай маці вельмі прыемная і ў той жа час адказная місія. Я, у сваю чаргу, хросная двух цудоўных хлопчыкаў. Сапраўды, вельмі прыемна, што мне даверылі такую ролю! Я падыходжу да гэтай справы з усёй адказнасцю і гатовая дапамагаць бацькам у духоўным выхаванні дзяцей.



**Ларыса Канецкая:**

– Я з'яўляюся хроснай маці хлопчыка Івана. Зараз яму ўжо 17 гадоў. Заўсёды падтрымлівала яго малітоўна і цікавілася яго духоўным развіццём. Размаўляем з ім па тэлефоне і ў інтэрнэце, бо бачымся не часта праз тое, што жывём у розных гарадах. На жаль, бацькі яго не вельмі часта ходзяць у касцёл. Таму я наколькі магла распавядала яму пра Бога і каталіцкую веру. Цяпер ён сам ходзіць у касцёл. Спадзяюся, што Добры Бог заўсёды будзе трымаць яго ў сваёй апецы і Маці Божая будзе ласкава клапаціцца пра яго.



**Раман Гапцар:**

– Я хросны бацька аднаго хлопчыка. Аднак ён пераехаў у іншую краіну, таму цяжка пастаянна падтрымліваць кантакт. На маю думку, хросныя павінны дапамагаць бацькам выхоўваць дзіця ў веры. Быць хросным – гэта вялікая адказнасць, бо трэба апраўдаць выбар перад бацькамі і перад Богам, паказваючы сваім жыццём добры прыклад хрысціяніна. Часта хросныя не ведаюць, што падарыць хросьнікам. Мне здаецца, што найлепшы падарунак – прысутнасць у жыцці, прыклад добрага, здаровага хрысціянскага жыцця, радасных адносін з Богам. Гэтага нішто – ні цацкі, ні камп'ютар, ні ровар – не заменіць.



## Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by

**Ці былі Вы хроснымі бацькамі?**

- хрысціў (-ла) аднаго хлопчыка – 30 адказаў;
- хрысціў (-ла) адну дзяўчынку – 24 адказы;
- з'яўляюся хросным (-ай) некалькіх хлопчыкаў – 25 адказаў;
- з'яўляюся хросным (-ай) некалькіх дзяўчынак – 19 адказаў;
- хрысціў (-ла) і хлопчыка, і дзяўчынку – 53 адказы;
- ніколі не быў / не была хросным бацькам / хроснай маці – 41 адказ;
- іншы варыянт у каментарах у сацыяльных сетках – 7 адказаў.

**Усяго – 199 апытаных**



# Чаму Касцёл не можа растлумачыць прычыны няшчасцяў, а экстрасэнсы могуць?

***"Чаму Касцёл не можа растлумачыць прычыны няшчасцяў і бедаў чалавека, а экстрасэнсы, на жаль, з гэтым выдатна спраўляюцца? Нават многія перастаюць хадзіць у касцёл і вераць у Бога".***

*Вернікі з Германавіч*

**На пытанне адказвае айцец Андрэй Сідаровіч MIC:**

– Пытанне існавання зла заўсёды цікавіла чалавека. І не толькі ў сэнсе філасофскім, як агульнай з'явы, прысутнай у свеце людзей, але таксама на ўзроўні штодзённага перажывання цярпення і болю. Мы, хрысціяне, адказ на пытанне "чаму зло, няшчасці, беды, цярпенне існуюць у свеце", знаходзім у Слове Божым. У ім адкрываем, што Бог не стварыў ні зла, ні цярпення, а прыйшлі яны ў свет пасля богаадступніцтва Адама і Евы. Цярпенне чалавека, кожнага з нас, – гэта вынік першароднага і нашага асабістага граху.

Касцёл услед за Словам Божым паўтарае і навучае, што нашае зямное жыццё не магчымае без выпрабавання і цярпення. Бог нам дае свайго ўкрыжаванага Сына як прыклад даверу ў болі, прыніжэнні і цярпенні. Толькі ў Ім і разам з Ім мы можам вытрымаць усе выпрабаванні.

У моманце цярпення паступаем вельмі па-рознаму: шукаем прычыны, наракаем на сябе або на іншых, наракаем на лёс і Бога, апускаем рукі, перажываем дэпрэсію, безнадзейнасць або, як біблейскі Іоў, праклінаем дзень нашага нараджэння...

Сярод гэтых перажыванняў па старой беларускай, але абсалютна язычніцкай традыцыі хапаемся за саломінку – ідзём па параду да экстрасэнсаў, да бабак, варажбітак і г. д. Чаму? Бо паслуга гэтых людзей не патрабуе ад кліента ніякага высілку: плоціш – і атрымліваеш "эфект", найчасцей кароткачасовы і сумнеўны адказ на тое, што з табой адбываецца. Такі візіт не будзе цябе змушаць маліцца, шукаць Бога і Яго плану для твайго жыцця, не будзе заклікаць да роздуму і пакаяння, а таксама да жыццёвых зменаў!

Рэцэпт Касцёла больш рэсурсна затратны: маліся, шукай, стукайся – і Бог адкажа. Але нават да святара мы прыходзім, як да шамана: ты памаліся за мяне! Не, гэта ты сам пачні маліцца, каяцца, шукаць, увайдзі ў адносіны з жывым Богам! За гады святарскага служэння я не бачыў людзей, пакінутых Богам, але бачыў Бога, пакінутага людзьмі...

Калі б экстрасэнсы мелі адказ на пытанні чалавека, то храмы стаялі б пустымі. Іх паслуга – гэта звычайнае шарлатанства або выразны ўдзел у справах злога духу. Менавіта пасля такіх сеансаў павялічваецца колькасць людзей, якія патрабуюць заступніцкай малітвы святара або нават малітвы экзарцыста. Пасля такой "выдатнай" паслугі і верым мы не ў Бога жывога, а ў забабоны, у замовы, сурокі і г. д.

Няхай перасцярогай для вас будзе строгасць Старога Запавету, які наказваў каменаваць кожнага, хто займаўся магіяй, чараўніцтвам, выклікannем духаў. Можам дадаць яшчэ лячэнне энергіяй, экстрасэнсорыкай, варажбой, прадказваннем будучыні, шаптаннем... Дзеі святых апосталаў нагадваюць, што знакам навяртання ў веру, у Езуса Хрыста ў некаторых мясцовасцях было публічнае спаленне магічных кніг.



**Елена Шевалдышева:**

Крестница была старше меня. И я сама крестилась совсем взрослой

**Вероника Загорская**

Крестная 3-х девочек и мальчика)

**Раман Калугін**

Хросны сваіх бабулі і дзядулі)

# Каляндар на лістапад



**Лістапад – гэта цудоўная магчымасць атуліць малітвай не толькі памерлых родных і блізкіх, але і ўсіх тых, хто адышоў да дому Айца. Калі мы верым, што разам са смерцю жыццё чалавека не заканчыцца, а толькі зменіцца, мы павінны таксама ўсведамляць, наколькі вялікая наша адказнасць за памерлых. Мы ўжо не можам сустрэцца з імі фізічна, але можам сустрэцца з імі ў знаку веры – у малітве, у святых Сакрамантах, ва ўчынках міласэрнасці для бліжніх.**

**1 лістапада – урачыстасць Усіх Святых.**

У гэты дзень успамінаюць не толькі тых, хто быў афіцыйна абвешчаны святым або благаслаўлёным, але і невядомых нам святых. Можна сказаць, што першага лістапада ўшаноўваюцца адразу ўсе тыя, хто здабыў вечнае шчасце. Карані дня Усіх Святых ідуць у IV стагоддзе. Тады ў Антыёхіі ўшаноўвалі памяць шматлікіх пакутнікаў, імёны якіх не былі вядомыя. У 610 годзе, калі Папа Баніфацый IV атрымаў ад імператара Рымскай Імперыі старажытную язычніцкую святыню Пантэон, туды былі перанесены шматлікія рэліквіі пакутнікаў. І гэты будынак асвяцілі як храм Маці Божай Пакутнікаў. З датай згаданай падзеі было звязана рымскае свята Усіх Святых. Спачатку ўшаноўваліся толькі Дзева Марыя і тыя, хто памёр за веру. У наступныя стагоддзі ўзнік культ "вызнаўцаў" – духоўных пакутнікаў. Таксама, як пакутнік сваёю смерцю станавіўся сведкам Хрыста, так вызнаўца даваў сведчанне сваім жыццём. Гэтая ўрачыстасць з'яўляецца абавязковай.

**2 лістапада – успамін усіх памерлых.**

У гэты дзень можна атрымаць поўны адпуст тым, хто наведае могілкі, а таксама выканае адпаведныя ўмовы: трэба быць пасля споведзі, прыняць Святую Камунію і памаліцца ў інтэнцыі святога Айца.

**12 лістапада – урачыстасць святога Язафата Кунцэвіча, апекуна Віцебскай дыяцэзіі.**

Знакаміты ўніяцкі дзеяч паходзіў з Уладзіміра Валынскага, з мяшчанскай сям'і. Нарадзіўся каля 1580 года. Юнаком па жаданні бацькоў накіраваўся ў Вільню, каб авалодаць прафесіяй купца. У Вільні ён сутыкнуўся з руплівымі духоўнікамі і ўключыўся ў інтэнсіўнае жыццё і справы маладой уніі. У 1604 годзе прыняў базыліянскі габіт, а пазней – пасвячэнні пераддыяканату і дыяканату. Адначасова распачаў тэалагічнае служэнне, а ў 1609 годзе прыняў святарскія пасвячэнні і быў прызначаны апекуном навіцыяту. Праз сваю старанасць атрымаў мянушку "душахват". Настаяцелі давяралі яму новыя, усё больш адказныя пасады і працу. У 1613 годзе ён быў прызначаны архімандрытам у касцёле Найсвяцейшай Тройцы ў Вільні, а ў 1617-ым атрымаў прызначэнне на месца полацкага каад'ютара. 12 лістапада 1623 года быў забіты ў часе барацьбы паміж абаронцамі і працаўнікамі ўніі. Цела арцыбіскупа ўтапілі ў Дзвіне. Беатыфікацыю здзейсніў Папа Урбан VIII у 1642 г., а кананізацыю – Папа Пій ХІ у 1867 г. Рэліквіі, знойдзеныя ў 1916 годзе ў Белай Падляскай, былі перавезены ў Вену, а потым – у базыліку св. Пятра ў Рыме, дзе і захоўваюцца.

**16 лістапада – успамін Маці Божай Вострабрамскай.**

У кожнай хрысціянскай краіне ёсць вобраз Маці Божай, які з'яўляецца сімвалам абароны і заступніцтва народа. Вось і ў Літве ёсць ікона Маці Божай, якая ўшаноўваецца католікамі і праваслаўнымі з асаблівай і глыбокай павагай. Гэты абраз Божай Маці знаходзіцца ў капліцы Вострай Брамы ў Вільні. Тут у Панны Марыі шукаюць суцяшэння не толькі мясцовыя жыхары, але і пілігрымы з многіх краін. Урачысты акт каранацыі абраза паводле дэкрэта Папы Пія ХІ быў здзейснены 2 ліпеня 1927 года Мітрапалітам Варшаўскім кардыналам Аляксандрам Какоўскім у прысутнасці ўсяго польскага епіскапату, Юзафа Пілсудскага і Прэзідэнта Польшчы Ігнацыя Масціцкага перад катэдральным саборам пад праліўным дажджом. Пасля каранацыі ў 1928 годзе абраз быў змешчаны ў капліцы ў адмысловым металічным кантэйнеры, які засцерагае яго ад пажараў і злодзеяў. Маці Міласэрнасці з Вострай Брамы ў Вільні шануецца ўсімі хрысціянамі як заступніца Беларусі і Літвы. Святочным днём ушанавання іконы лічыцца 16 лістапада. Штогод у перыяд святочнага тыдня здзяйсняюць паломніцтвы ў Вільню на свята Маці Божай Вострабрамскай тысячы пілігрымаў. Яе абраз ёсць у шматлікіх беларускіх храмах – як каталіцкіх, так і праваслаўных.

**20 лістапада – урачыстасць Хрыста Валадара Сусвету.**

Гэтая ўрачыстасць бярэ свой пачатак у 1925 годзе, калі Папа Пій ХІ энцыклікай "Quas primas" 11 снежня абвясціў Хрыста Валадаром Сусвету і зацвердзіў святкаванне ўрачыстасці на апошнюю нядзелю літургічнага года. Гэта былі асаблівыя часы, калі зямныя каралі трацілі ўладу, а людзі яе здабывалі. У такім становішчы Папа хацеў скіраваць сэрца чалавека да сапраўдных каштоўнасцяў і сканцэнтраваць яго на высакародных ідэалах. Ён нагадваў, што толькі Хрыстос – Альфа і Амега, пачатак і канец усяго, падкрэсліваючы іншасць Валадарства Хрыста. Учора і сёння абвяшчаецца тая ж самая праўда пра тое, што Хрыстос – Валадар Любові. Ён хоча валадарыць у сэрцах людзей. Хоча, каб у свеце запанавалі Божы парадак, Божая праўда, справядлівасць і любоў.

**21 лістапада – Ахвяраванне Найсвяцейшай Панны Марыі.**

**27 лістапада – І-ая нядзеля Адвэнту.**

Гэта час радаснага чакання Божага Нараджэння, таму названы літургічны перыяд па сваім характары адрозніваецца ад Вялікага посту. Адвэнт доўжыцца амаль 4 тыдні і заканчваецца 24 снежня ў Вігілію Божага Нараджэння.

**30 лістапада – свята св. Андрэя, апостала.**

Паходзіў з Бэтсаіды (Галілея). Быў братам Сымона-Пятра. Абодва яны былі рыбакамі і жылі ў Капернауме, на беразе Генісарэцкага возера. Згодна з Евангеллем паводле св. Яна, Андрэй спачатку належаў да супольнасці вучняў св. Яна Хрысціцеля, а потым па парадзе свайго настаўніка пайшоў за Езусам, узяўшы з сабою брата. Такім чынам Андрэй стаў першым вучнем Хрыста, і таму ва ўсходняй традыцыі яго называюць "Першазваным". 30 лістапада 60 года ў грэцкім горадзе Патрасе ён прыняў мучаніцкую смерць праз укрыжаванне: апостал быў прыбіты да крыжа ў форме літары "Х" – т. зв. крыжа св. Андрэя. У Сярэднявеччы яго рэліквіі трапілі ў Амальфі, у Італію, і там спачываюць у катэдры св. Андрэя да сённяшняга дня, аточаныя вялікай пашанай. Пазней галава святога была перавезеная ў Рым, але ў 1964 г. Папа Павел VI вярнуў каштоўную рэліквію ў Патрас. Свята св. Андрэя з'яўляецца важнай датай у народным календары, з якой звязана шмат традыцый (напр., Андрэйкі). Святы з'яўляецца апекуном рыбакоў, плыўцоў, добрага сужэнства і дзяцей. Яго заступніцтва просяць ад артрыту і сутаргаў.

*Падрыхтавала* ***Марына Ткач***

# Беларусь у "святых" гербах. Віцебск



**Упершыню герб Віцебска мне давялося ўбачыць у стылізаванай версіі – там не хапала некалькіх істотных элементаў.**

■ **а. Андрэй Сідаровіч,** *марыянін (Росіца)*

Выява чалавека на гербе выклікала пытанні не толькі ў сяброў, павярхоўна знаёмых з маляваннем абразоў і пісаннем ікон, але і ў мяне, святара з тэалагічнай адукацыяй. У дыскусіі з сябрамі адразу нарадзілася некалькі версій.

Калі меркаваць па выяве мяча, то, відаць, гэты чалавек загінуў у выніку гвалту: можа, гэта Ян Хрысціцель, галаву якога прынеслі цару Іраду? А можа, святы апостал Павел, які быў асуджаны на смерць, але як рымскі грамадзянін не ўкрыжаваны, а пакараны адсячэннем галавы? Але твар чалавека на гербе не падобны ні да Яна Хрысціцеля, якога часта паказваюць чалавекам непрычэсаным, ні да апостала Паўла, каторага часцей адлюстроўваюць лысаватым. Была таксама версія "не пабожная": можа, гэта не святы, а адзін з князёў або ўладароў Віцебска?

Сумненні развеяліся, калі мы з сябрамі звярнуліся да нармальнай выявы віцебскага герба. Літары на ім адназначна сведчылі: на выяве – Збаўца, Езус Хрыстус!

Але пры чым тут меч? І толькі апісанне герба дапамагло выбрацца з блытаніны розных версій. Выява Хрыста з'явілася на гарадскім гербе па просьбе магістрата Віцебска, які здаўна выкарыстоўваў выяву Спаса Нерукатворнага на сваёй пячатцы. Цікава, што раней Езуса на гербах паказвалі толькі ў выглядзе малога дзіцяці. А меч не датычыцца падзей з жыцця Хрыста. Гэта свецкі сімвал, які азначае няпросты гістарычны шлях горада. Віцебску неаднаразова даводзілася са зброяй бараніць сваю незалежнасць. І першы варыянт герба з канца XVI ст. яскрава гэта паказвае: на ім меч акрываўлены.

# Сьвяты з вяроўкай на шыі

## Святы Караль Барамей
## (1538-1584) – 4 кастрычніка

**Не штодзённая сцэна: Караль, прадстаўнік магутнага міланскага роду Медычы, пляменнік Папы Пія IV, кардынал Святога Рымскага Касцёла, біскуп Мілана, босы, у адзенні жабрака, з вяроўкай на шыі ідзе па вуліцах свайго горада...**

**а. Андрэй Сідаровіч**, *марыянін (Росіца)*

Кардыналам Караля зрабіў яго дзядзька, калі сам быў абраны на Пасад Святога Пятра. Гэта адзін з нешматлікіх выпадкаў у гісторыі Касцёла, калі "сувязі" дапамаглі сапраўды вартаснаму чалавеку. Караль у дзяцінстве быў не па гадах пабожны і сур'ёзны. Як малодшаму сыну ў сям'і яму было наканавана духоўнае служэнне, таму ўжо ў сямігадовым (!) узросце ён атрымаў заданне кіраваць кляштарам!

Караль з'яўляецца равеснікам Трыдэнцкага Сабора, які быў каталіцкім адказам на Рэфармацыю Лютэра. Асабіста ў Саборы ён не ўдзельнічаў, але праз назіральнікаў пільна сачыў за ходам дыскусій. Менавіта айцы Сабора натхнілі Караля адрачыся свецкай кар'еры і прыняць святарскія і біскупскія пасвячэнні. Больш за тое, пачуўшы прамову аднаго з партугальскіх іерархаў, Караль выракся таксама свайго багатага велікасвецкага стылю жыцця і стаўся сапраўдным вучнем Езуса – сціплым і пакорным. Адмаўляючыся ад раскошы, пазалоты замкаў і палацаў, ад багатых экіпажаў, Караль і папскія традыцыі змяняе. Прычым настолькі, што чуе абвінавачванне ў сквапнасці.

Калі кардынал Караль прыязджае ў сваю агромністую (740 парафій, больш за 100 кляштараў, каля 560 тыс. вернікаў) Міланскую дыяцэзію, біскупа, які мусіў рэзыдаваць, там не было ўжо 80 гадоў. Раздаўшы сваю маёмасць, ён у біскупскім палацы займае два невялікія пакойчыкі – спальню і кабінет. Першыя мэты, якія сабе ставіць, – выкараніць злоўжыванні, заклікаць да евангелічнага жыцця, прымірыць тых, хто канфліктуе. Сваіх святароў біскуп Караль павучаў, што для духоўнага самае важнае – абвяшчаць слова Божае, удзяляць сакраманты, але таксама і быць прыкладам пабожнага жыцця для сваіх вернікаў. Дарэчы, гэта менавіта св. Караль як адзін з першых біскупаў рэалізаваў важную ідэю сабора – адчыніў семінарыю для святароў. Наколькі гэта была патрэбная справа, сведчыць факт, што некаторыя людзі ў той час прыходзілі на споведзь з запісанай малітвай адпушчэння грахоў, каб мець упэўненасць, што святар правільна прачытаў гэтую малітву.



Св. Караль заўсёды марыў быць пастырам сваіх авечак, таму шмат часу прысвяціў душпастырскім візітацыям парафій. Для тых, хто меў патрэбу, будаваў прытулкі і шпіталі. У часе эпідэміі асабіста нястомна наведваў смяротна хворых, пагарджаючы небяспекай заразіцца. Сваім прыкладам мабілізаваў іншых да ўзаемнай дапамогі.

Памёр біскуп Мілана, маючы 46 гадоў жыцця, абяссілены пакутай, пастамі, недахопам сну і нялюдскімі высілкамі.

Але пры чым тут вяроўка на шыі? Гэта быў дзень, калі св. Караль разам са сваім народам у знак пакаяння і просьбы ўратаваць ад заразы чумы прайшоў вуліцамі Мілана ў пакутнай працэсіі. Вяроўка на шыі – знак залежнасці толькі ад Бога і Яго Міласэрнасці...

### Рэдакцыя дзякуе!

Дарагія сябры! Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **члены Легіёну Марыі з Дзеркаўшчыны, Кандрат Леановіч** *(Віцебск)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Эдуарда Ермаковіч** *(Сітцы)*, **Сцепаніда Грэцкая** *(Вазоўнікі)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Тэрэса Дулінская** *(Вазоўнікі)*, **сям'я Тупека** *(Дзеркаўшчына)*, **Е.І. Красілевіч** *(Казлоўшчына)*, **Яніна Вяршэль** *(Цэнтральная)*, **Юстын Пачкоўскі** *(Савуткі)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Алена Балай** *(Мосар)*, **Я.Ю. Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Ангеліна Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Леакадзія Кісель** *(Быстрымаўцы)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Ірына Кончыц** *(Гомель)*, **Ганна Карніловіч** *(Глыбокае)*, **Вацлава Савіцкая** *(Глыбокае)*, **Галіна Каспяровіч** *(Муравьная Ашмянка)*, **Таццяна Образава** *(Віцебск)*, **Даната Рудак** *(Янкава)*, **Даглікава** *(Гомель)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
*вул. Савецкая, 1*
*211800 г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

## На лістапад прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і дні святарскага і біскупскага пасвячэння ў наступных святароў і біскупаў:

**1 лістапада** – імяніны адзначае **кс. Вячаслаў Матукевіч**;

**4 лістапада** – імяніны адзначаюць **а. Алег Вайцяховіч OFMCap**, **кс. Віталь Маргуноў**, **кс. Караль Тамэцкі**, **кс. Алег Шэнда OFMCap**, **кс. Караль Бараноўскі** *(Гродна)*;

**5 лістапада** – дзень нараджэння адзначае **кс. Юрый Барок** *(Расоны)*; імяніны адзначае **кс. Славамір Самковіч** *(Пагошча)*;

**6 лістапада** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Алег Півавар** *(Ваўкалата)*, **кс. Андрэй Бочар MS** *(Далёкія)*, **кс. Леанард Ціханоўскі OCD** *(Гудагай)*, **кс. Дзмітрый Несцер** *(Геранёны)*; імяніны адзначаюць **кс. Леанард Ціханоўскі OCD** *(Гудагай)*, **кс. Леанард Станкоўскі** *(Солы)*;

**8 лістапада** – дзень нараджэння адзначае **кс. Андрэй Лішко**;

**9 лістапада** – дзень нараджэння адзначае **кс. Мар'ян Хаменя** *(Шылавічы)*;

**10 лістапада** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Ян Раманоўскі** *(Гродна)*, **кс. Вітальд Жэльветра** *(Ліпнішкі)*; імяніны адзначаюць **кс. Леанід Мозгель** *(Павяцце)*, **кс. Леон Ладыш** *(Вайстам)*, **кс. Леон Вітэк OMI** *(Зарэчанка)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Міхал Ластоўскі** *(Копцеўка)*, **кс. Аляксандр Мацкевіч**;

**11 лістапада** – дзень нараджэння адзначае **кс. Юрый Кузьміч** *(Новы Двор)*;

**12 лістапада** – дзень нараджэння адзначае **кс. Андрэй Радзевіч** *(Бярозаўка)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Генадзь Добрук** *(Мёры)*, **кс. Валерый Орсік** *(Орша)*, **кс. Алег Півавар** *(Ваўкалата)*, **кс. Славамір Самковіч** *(Пагошча)*; імяніны адзначаюць **а. Віталь Сапега OP** *(Віцебск)*, **кс. Віталь Бурко**, **кс. Вітальд Чурган** *(Юрацішкі)*, **кс. Вітальд Лазавіцкі** *(Радунь)*, **кс. Віталь Пяцельчыц SChP** *(Шчучын)*, **кс. Віталь Внароўскі** *(Адэльск)*, **кс. Вітальд Жэльветра** *(в. Ліпнішкі)*;

**13 лістапада** – дзень нараджэння адзначаюць **а. Чэслаў Куцмеж SCJ** *(Паставы)* і **кс. Станіслаў Мжыглуд SDS** *(Браслаў)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Аляксандр Адамовіч** *(Нача)*, **кс. Ян Радзюк**;

**14 лістапада** – дзень нараджэння адзначае **кс. Тадэвуш Кавальскі OFMCap** *(Докшыцы)*;

**15 лістапада** – дзень нараджэння адзначае **кс. Казімір Ляховіч** *(Быстрыца)*;

**16 лістапада** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Антоні Адамовіч** *(Ліда)*, **кс. Павел Барысевіч** *(Ашмяны)*, **кс. Алег Кананові**ч, **кс. Алег Кудэрка** *(Адамовічы)*, **кс. Андрэй Лазарэвіч**, **кс. Алег Пятрашка** *(Лядск)*, **кс. Віталь Внароўскі** *(Адэльск)*, **кс. Віктар Захарэўскі** *(Раготна)*;

**17 лістапада** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Яцэк Хутман** *(Камаі)*;

**18 лістапада** – дзень нараджэння адзначае **кс. Казімір Янджэйчак OMI** *(Селіванаўцы)*; імяніны адзначае **кс. Раман Факсінскі**;

**19 лістапада** – дзень нараджэння адзначае **кс. Генадзь Ляўкоў** *(Дрысвяты)*;

**20 лістапада** – гадавіну біскупскага пасвячэння адзначае **біскуп на пенсіі Уладзіслаў Блін**;

**21 лістапада** – дзень нараджэння адзначае **кс. Станіслаў Пацына** *(Ліда)*;

**22 лістапада** – дзень нараджэння адзначае **а. Павел Мажэйка OP** *(Магілёў)*;

**24 лістапада** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Ян Рушніцкі** *(Каробчыцы)*, **кс. Андрэй Вітэк SAC** *(Воранава)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Ежы Беганьскі** *(Ліда)*, **кс. Павел Гардзейчык** *(Астравец)*, **кс. Аляксандр Лебядзевіч** *(Іўе)*, **кс. Павел Лазоўскі** *(Струбніца)*, **кс. Аляксандр Рудзевіч** *(Тракелі)*, **кс. Валерый Шэйгерэвіч OFMConv** *(Свіслач)*;

**27 лістапада** – імяніны адзначае **кс. Валерый Аброшка** *(Гродна)*;

**28 лістапада** – імяніны адзначаюць **кс. Здзіслаў Пікула SDB** *(Варняны)*, **кс. Здзіслаў Ведэр** *(Смаргонь)*;

**29 лістапада** – дзень нараджэння адзначае **кс. Ян Занеўскі** *(Квасоўка)*;

**30 лістапада** – імяніны адзначаюць **кс. Андрэй Аніскевіч** *(Віцебск)*, **кс. Андрэй Бочар MS** *(Далёкія)*, **кс. Андрэй Бульчак** *(Паставы)*, **кс. Андрэй Кулік** *(Дзеркаўшчына)*, **кс. Яўген Міхайлаў** *(Глыбокае)*, **а. Анджэй Юхневіч OMI** *(Шуміліна)*, **кс. Андрэй Фёдараў** *(Беразіно)*, **кс. Андрэй Еркавец** *(Бабруйск)*, **кс. Андрэй Агель SChP** *(Ліда)*, **кс. Андрэй Бародзіч**, **кс. Андрэй Бурак** *(Лаздуны)*, **кс. Андрэй Горбач** *(Астравец)*, **кс. Андрэй Ядкоўскі** *(Вялікая Берастaвіца)*, **кс. Андрэй Кеўлюк** *(Жалудок)*, **кс. Андрэй Казлоўскі** *(Малая Берастaвіца)*, **кс. Андрэй Лішко**, **кс. Андрэй Лазарэвіч**, **кс. Андрэй Пышынскі** *(Казлоўшчына)*, **кс. Андрэй Радзевіч** *(Бярозаўка)*, **кс. Андрэй Роўба CRL** *(Вавёрка)*; **кс. Андрэй Вітэк SAC** *(Воранава)*, **кс. Андрэй Врублеўскі CSsR** *(Гродна)*, **кс. Андрэй Знасько** *(Ліда)*.

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў і біскупаў.**

*Падрыхтавала*
***Марына Ткач***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

***Паважаны ксёндз Віктар Місевіч!*** *З нагоды Дня нараджэння дасылаем самыя сардэчныя віншаванні! Жадаем доўгіх гадоў жыцця ў добрым здароўі, шмат сіл для рэалізацыі Божых планаў, стойкасці ў пераадольванні цяжкасцей. Няхай Пан Бог блаславіць Вас, Найсвяцейшая Панна Марыя і Анёл Ахоўнік хай вядуць шчаслівым шляхам, а Святы Дух пранікае ў глыбіню сэрца і прыносіць радасць, суцяшэнне і дні, напоўненыя Яго дарамі! Няхай промні бязмежнай міласэрнасці асвячаюць кожны дзень жыцця. Шчасці, Божа!*



***З павагай, сем'і Місевіч і Вяршэль***

## Хвала Хрысту!

*4 кастрычніка адзначыў Дзень нараджэння канцлер Віцебскай дыяцэзіі, галоўны рэдактар "Каталіцкага Весніка"* ***ксёндз Віктар Місевіч.***

*Шчыра віншуем Вас, шаноўны ксёндз Віктар, і жадаем поспехаў на Вашай святарскай ніве, моцнага здароўя, прыгожых і ўзнёслых думак, адданых і ўдзячных вернікаў, магутнай веры, каб падтрымлівала не толькі Вас, але і ўсіх, каго Бог аддае пад Вашу апеку!*

*Плёну на ніве духоўнага адраджэння беларускай зямлі і ў працы на карысць Касцёла, Божага блаславення і апекі Маці Божай!*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***



## Поздравляю!

*Многоуважаемый и незабываемый* ***отец Витольд Жельветро!*** *Поздравляю Вас с Днём рождения (10 ноября) и именинами (12 ноября)! Желаю Вам наилучшего здоровья, долголетия, спокойствия, добрых людей в Вашей службе на Божьей ниве, опеки Матери Божьей и ангела-хранителя.*



***Лилия Кучинская***



## Паважаны ксёндз Алег Півавар!

*Шчыра, сардэчна віншуем Вас з Днём нараджэння (6 лістапада) і чарговай гадавінай святарскага пасвячэння (12 лістапада)! Няхай добры Бог асвятляе шчодрымі ласкамі Ваш жыццёвы шлях, адорвае моцным здароўем, дае натхненне, цярплівасць і вытрымку на доўгія гады Вашага служэння!*



*Няхай Усявышні з неба на Вас Святога Духа спасылае,*
*Быць шчырым і мудрым пастырам няхай ён Вас блаславіць!*
*Прыносіць сваёй працай багаты, добры плён,*
*Служыць самааддана Богу аж да апошніх сваіх дзён!*

***Парафіяне касцёла св. Яна Хрысціцеля з вёскі Гарадзішча Докшыцкага раёна***



## Віншуем!

*Закрыстыяна капліцы святога Юрыя* ***Івана Іванавіча Царкоўскага*** *віншуем з 70-годдзем, якое ён адзначыць 1 лістапада. Няхай добры Бог суправаджае яго заўсёды і дае моцнае здароўе на доўгія гады!*

***Вернікі з Быстрымаўцаў***





## Хвала Хрысту!

*29 верасня каталіцкі свет адзначыў дзень памяці святога Міхаіла Арханёла. З гэтай нагоды хочацца павіншаваць з імянінамі пробашча* ***ксяндза Міхаіла Татарэнку,*** *святара лужкаўскай парафіі.*

*Шаноўны ксёндз Міхаіл! Сардэчна жадаем Вам моцнага здароўя, сілаў, цярпення і нястомнасці ў святарскім служэнні. Ад вашых казанняў у час святой Імшы нашы сэрцы імкнуцца да чысціні і супакою, становяцца вольнымі ад мітуслівых жаданняў і зайздрасці, нелюбові і злосці. Вы імкняцеся напоўніць нашыя душы Божай любоўю і гармоніяй.*

*Няхай наш Нябесны Айцец шчодра ўзнагародзіць Вас за ўсе малітвы, за мудрую навуку, за прыклад пабожнасці і дабрыні, за Ваша чулае сэрца, за цярплівасць і спагаду! Мы заўсёды памятаем Вас у сваіх малітвах і шчыра ўдзячныя Пану Богу за тое, што у нашай парафіі служыць такі адказны, справядлівы і добразычлівы святар.*

*Няхай добры Бог Вас не пакіне без сваёй апекі, а Маці Божая хай абараняе і падтрымлівае! А мы, у сваю чаргу, будзем актыўнымі і надзейнымі памагатымі ў нялёгкай святарскай працы. Мы будзем імкнуцца захаваць святыню нашай мясцовасці і хочам, каб Вы засталіся ў нас яшчэ не на адзін дзясятак гадоў!*

***З любоўю і павагай, парафіяне касцёла святога Міхаіла Арханёла ў Лужках (Шаркаўшчынскі раён)***



## Хвала Хрысту!

*Мы, вернікі капліцы св. Юрыя, хочам павіншаваць шаноўнага* ***ксяндза Лешака Вітвіцкага*** *з 50-годдзем (22 кастрычніка). Жадаем яму моцнага здароўя, ажыццяўлення ўсіх планаў і задумак, поспехаў у душпастырскай працы, радасці. Няхай Дух Святы суправаджае добрай дарогай і блаславіць, а Маці Божая няхай беражэ ад усяго злога!*



***Вернікі з Быстрымаўцаў***



## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Ад імя ўсіх вернікаў ваўкалацкага касцёла св. Яна Хрысціцеля (Докшыцкі раён Віцебскай вобласці) шчыра віншуем былога пробашча нашай парафіі* ***ксяндза Андрэя Зуя*** *з Днём нараджэння (3 лістапада) і з імянінамі (30 лістапада), жадаем яму моцнага здароўя, духоўных і фізічных сіл для далейшага служэння, а таксама шчодрай Божай дапамогі!*

*Амаль чатыры гады ксёндз Андрэй у малітве быў разам з намі. Мы прыкіпелі да яго ўсёй душой, палюбілі ўсім сэрцам, бо ён заўсёды быў гатовы дапамагчы і справай, і словам. Сэрца яго было адкрыта для кожнага верніка.*

*Акрамя душпастырскай дзейнасці, ксёндз Андрэй займаўся рамонтам касцёла, добраўпарадкаваннем могілак і тэрыторыі каля святыні, чым заслужыў вялікую ўдзячнасць, любоў усіх парафіянаў і пакінуў памяць нам і нашым нашчадкам на многія дзесяцігоддзі.*

*Мы упэўнены, што на новым месцы яго працы ўсё складзецца добра, таму што айцец Андрэй – шчыры працаўнік і сапраўдны гаспадар Божага храма!*



*Хай ад Бога Айца Вам здароўе і сіла даецца,*
*І, як Сэрца Езуса, праменіцца Вашае сэрца.*
*Хай ад Духа Святога даецца Вам мудрасць і ўменне,*
*А ад Божае маці – разважнасць, ласкавасць, цярпенне!*

***Вернікі касцёла св. Яна Хрысціцеля з вёскі Гарадзішча***

## Віншуем!

*2 кастрычніка* ***ксёндз Марат Казлоўскі*** *адзначыў залаты юбілей.*

*Шчыра віншуем Вас, ксёндз Марат, з гэтай нагоды! Няхай Пан Бог адорыць Вас усімі неабходнымі ласкамі, а Дух Святы хай памнажае Вашу мудрасць, падтрымлівае ў цярпенні. Няхай будзе трывалым здароўе, заўсёды добры настрой, а на Вашым жыццёвым шляху сустракаюцца толькі добразычлівыя людзі!*



***З павагай, вернікі капліцы св. Пятра і Паўла ў в. Казлоўшчына (Пастаўскі раён)***

## Поздравляем!

*Поздравляем уважаемого* ***ксендза Марата Козловского*** *с 50-летием!*

*С Днём рождения Вас, ксёндз Марат!*

*Ксёндз Марат, Вы – тот священник, который нам нужен! Вы учите нас жить по-другому, исцеляя наши души. Мы любим и ценим Вас. Желаем Вам Божьего благословения, здоровья!*

***От прихожан каплицы Св. Иосифа-ремесленника в д. Саутки, Александр***



## Хвала Хрысту!

*8 кастрычніка адзначыў дзень нараджэння* ***ксёндз Іван Кароткін.***

*Віншуем яго з гэтай нагоды і выказваем вялікую пашану і ўдзячнасць за натхнёную працу на Божай ніве! Прыгажосцю душы, сваёй святасцю, разуменнем і натхненнем святар натхняе нас, вернікаў, ісці дарогай Божай Праўды.*

*Жадаем ксяндзу Івану моцы духа ў душпастырскай дзейнасці, любові Хрыста, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, здароўя, добрых і зычлівых людзей побач.*

*Мы ў штодзённых малітвах памятаем пра Вас!*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***



# Ці прызначае Бог лёс чалавеку ад пачатку нараджэння?

***"Ці прызначае Бог лёс чалавеку ад пачатку нараджэння?"***
*Вернікі з Германавіч*

**На пытанне адказвае айцец Андрэй Сідаровіч MIC:**

– Так, прызначае. Згодна са словам Божым, "гэта добра і прыемна ў вачах Збаўцы нашага, Бога, Які хоча, каб усе людзі былі збаўленыя і дайшлі да пазнання праўды (1 Цім 2,3-4). Гэта добрая навіна для кожнага чалавека: сэнс жыцця прызначаны нам Богам – быць збаўленым! Сказанае азначае, што Бог спрыяе нам ва ўсім, каб мы дайшлі да прызначанай Ім для нас мэты. Бог у сваёй дабрыні не толькі прызначае, але таксама робіць здольнымі нас дасягнуць збаўлення.

Калі чуем слова "прызначэнне", можам перажываць страх, бо без святла слова Божага яно можа азначаць наканаванасць лёсу: дзесьці хтосьці табе вызначыў пражыць такое, а не іншае жыццё, з такім, а не іншым фіналам.

Гэта сумна – жыць і ведаць, што ты не маеш уплыву на сваё жыццё, што ты марыянетка, а не дзіця Божае. Гэта мысленне разбіваецца толькі словам Божым. Ад першых старонак Біблії ведаем, што чалавек створаны Богам разумным, з несмяротнай душой, а таксама **СВАБОДНЫМ** выбіраць. Уся Біблія прасякнутая гэтай ідэяй незалежнасці чалавека ад свайго Стваральніка.

Кожны дзень, кожную хвіліну мы вольныя ў нашым выбары: што падумаць, што сказаць, што зрабіць. Мы не закладнікі таго, што свет называе "лёсам" або фатумам. Але апостал Павел кажа: "Усё мне можна, але не ўсё карысна" (1 Кар 6,12).

# Чаму падчас Святой Камуніі не ўдзяляецца Кроў Хрыста?

*"Хвала Хрысту! Чаму ў многіх касцёлах падчас св. Імшы вернікі прымаюць толькі Цела Хрыста, а Святую Кроў – не?"*
*Ян*

**На пытанне адказвае а. Аляксандр Махнач SP:**

– Хвала навекі! Паважаны Ян! Дзякую за пытанне!

У адпаведнасці з Канстытуцыяй пра Святую Літургію Другога Ватыканскага Сабору ў Лацінскім Касцёле быў вернуты спосаб прыняцця Святой Камуніі праз вернікаў пад дзвюма постацямі з абмежаванасцю ў канкрэтных выпадках (гл. КЛ 55).

Настойліва рэкамендуецца больш дасканалы спосаб удзелу ў св. Імшы, калі пасля Камуніі святара вернікі спажываюць Цела Пана з той самай Ахвяры. Захоўваючы вызначаныя Трыдэнцкім Саборам дагматычныя прынцыпы, у выпадках, акрэсленых Апостальскай Сталіцай, біскуп можа дазволіць Св. Камунію пад дзвюма постацямі як дыяцэзіяльнаму духавенству і кансэкраваным асобам, так і свецкім, напрыклад, тым, якія ў дадзенай Імшы атрымалі пасвячэнне ці далі манаскія абяцанні, або новаахрышчаным на Імшы, што адбываецца пасля іх хросту.

Такія сітуацыі, калі дазвол біскупа можа даць згоду на прыняцце Св. Камуніі пад дзвюма постацямі, занесены ў Інструкцыі Eucharisticum mysterium ад 25.05.1967 г. у №32-м. Ліст упаўнаважаных прымаць Святую Камунію пад дзвюма постацямі быў пашыраны ў адпаведнасці з Інструкцыяй Кангрэгацыі Божага Культу Sacramentali Communione ад 29.06.1970 г.

У адпаведнасці з гэтай інструкцыяй за межамі Апостальскай Сталіцы і біскупскіх канферэнцый і мясцовыя ардынарыі могуць вызначаць, калі і каму можна ўдзяляць Св. Камунію пад дзвюма постацямі. Таксама трэба паклапаціцца пра дастатковую катэхізацыю. У сувязі з выхадам новага Рымскага Імшала (1970) у Агульных уводзінах былі пададзеныя дактрынальныя прынцыпы і нормы, якія абавязковыя пры ўдзяленні Святой Камуніі пад дзвюма постацямі (№240-253).

## 1. Больш поўны характар

Агульныя ўводзіны ў 1970 і 1975 гадах сцвярджаюць, што прыняцце Святой Камуніі пад дзвюма постацямі становіцца больш поўным праз вымову знаку (ratione signis pleniorem). Гэтая форма паказвае на больш дасканалае святло – "знак Эўхарыстычнай гасціны і ясна выказвае волю завяршэння новага і вечнага запавету ў Крыві Пана; таксама падкрэслівае сувязь паміж эўхарыстычнай гасцінай і канчатковай гасцінай у Валадарстве Нябесным" (№ 240; пар ЕМ 32). Святая Камунія пад дзвюма постацямі з'яўляецца верным выкананнем запаведзі Хрыста падчас апошняй Вячэры, калі Ён устанавіў Эўхарыстыю:"бярыце і ешце", "піце з яго ўсе" (Мц 26, 26-27); указвае Эўхарыстыю як ахвярную гасціну (1 Кар. 10,16-22; 11,20); належыць да падзей, звязаных з гісторыяй збаўлення, ахвяры і гасціны, злучаных з першым запаветам (Зых 24, 11). Віно сімвалізуе ўрачысты характар гасціны (Пс 23, 5; 104, 15; Суддзяў 09, 13). Піццё кубка Пана прадказвае ўдзел у эсхаталагічнай (канчатковай) гасціне (Мц 26, 27-29; Лк 22, 17-18); келіх таксама з'яўляецца знакам вечнага запавету з Богам у Крыві Хрыста (Гбр 9, 15-22).

Імшальныя малітвы пасля Св. Камуніі часта спасылаюцца на прыняцце Цела і Крыві Хрыста як на прадказанне і чаканне нябеснай гасціны. Звяртаючыся да вучэння Трыдэнцкага Сабору, патрэбна нагадваць вернікам, што згодна з навучаннем Касцёла, "прымаем усяго Хрыста ў сапраўдным сакраманце таксама і пад адной постацю" (№ 241). У 242 нумары ўзгадваюцца ўсе выпадкі, калі падчас Імшы, карыстаючыся сілай паўсюднага закона, можна ўдзяляць Св. Камунію пад дзвюма постацямі. Канферэнцыі Біскупаў і мясцовыя ардынарый могуць таксама вызначаць іншыя выпадкі:

1) дарослыя неафіты падчас Імшы, якая наступае пасля хросту; дарослыя канфірмаваныя падчас св. Імшы, звязанай з Канфірмацыяй; ахрышчаныя, якія прымаюцца ў касцельную супольнасць;

2) сужэнцы падчас шлюбу ў спалучэнні са святой Імшой;

3) дыяканы падчас св. Імшы Пасвячэння;

4) ксені (ігумені) падчас Імшы, калі яны атрымліваюць блаславенне; дзевы падчас Імшы іх кансэкрацыі; асобы, якія складаюць манаскія абяцанні або аднаўляюць іх падчас св. Імшы, спалучанай з іх першай манаскай прафесіяй, яе аднаўленнем і вечнай прафесіяй, іх бацькі, сваякі і субраты;

5) свецкія місіянерскія памочнікі на Імшы, падчас якой публічна атрымліваюць місію, іншыя людзі падчас св. Імшы, у ходзе якой яны атрымліваюць Касцельную місію;

6) хворы, які прымае Віятык, і ўсе, хто прысутнічаў на Імшы ў хатніх умовах;

7) дыякан і міністранты, якія выконваюць свае абавязкі падчас св. Імшы;

8) падчас канцэлебры (саслужэння):

а) усе, хто выконвае фактычныя богаслужбовыя функцыі, а таксама ўсе семінарысты, якія бяруць удзел у саслужэнні;

б) у сваіх цэрквах або капліцах: усе члены манаскіх інстытутаў, якія шлюбавалі жыццё паводле евангельскіх парадаў, і чальцы іншых таварыстваў, у якіх яны прысвячаюць сябе Богу праз манаскія шлюбы, ахвяраванне альбо абяцанне; у дадатак усе тыя, хто пастаянна пражывае ў доме гэтых манаскіх інстытутаў і таварыстваў;

9) святары, якія ўдзельнічаюць ва ўрачыстасцях, але не могуць ні служыць, ні саслужыць;

10) усе, хто прымае актыўны ўдзел у св. Імшы падчас рэкалекцый; усе, хто прымае ўдзел у пасяджэнні душпастырскіх груп, падчас Імшы, у якой сумесна ўдзельнічаюць;

11) асобы, названыя пад нумарамі 2 і 4 падчас іх юбілеяў;

12) хросны бацька, хросная маці, бацькі і сужэнец (-ка), а таксама свецкія катэхеты сталага неафіта падчас Імшы, звязанай з яго ініцыяцыяй;

13) бацькі, члены сям'і і дабрачынцы, якія ўдзельнічаюць у св. Імшы навапасвячанага святара;

14) члены кангрэгацый і ордэнаў у канвентуальнай св. Імшы і Імшы Кангрэгацыі паводле нумару 76 гэтых уводзінаў.



## 2. Новыя нормы для ўдзялення Св. Камуніі пад дзвюма постацямі

Перагледжаныя правілы ўдзялення Св. Камуніі пад дзвюма постацямі ёсць у Institutio Generalis Missalis Romani з 2000 г. пад нумарамі 281–287, спасылаючыся таксама на адпаведныя літургічныя кнігі (№ 283). Былы № 242 мае новае гучанне, у якім пашырана сфера асоб, каторыя, згодна з законам, а не як дагэтуль – дзякуючы згодзе дыяцэзіяльнага біскупа – могуць прымаць Св. Камунію ў дзвюх постацях.

З мэтай правільнай інтэрпрэтацыі нумару 283-га, Кангрэгацыя Божага Культу і Дысцыпліны Сакрамантаў апублікавала ў сваім афіцыйным часопісе "Notitiae" тлумачэнне на тэму прыняцця Св. Камуніі пад дзвюма постацямі (Congregatio de Cultu Divino et Disciplina Sacramentorum, La Comunione sotto le due specie, „Notitiae" 37 (2001) 256–258).

## 3. Спосаб удзялення Св. Камуніі пад дзвюма постацямі

Агульныя ўводзіны ў Рымскі Імшал ад 1975 г. прадастаўляюць чатыры спосабы ўдзялення Св. Камуніі: шляхам прамога піцця з келіха, які падае дыякан (№ 244-245); шляхам апускання Гостыі ў Кроў Пана (Per intinction №246-247); шляхам піцця з келіха праз трубку (cum calamo 248-250); з дапамогай лыжачкі (cum cochlear № 251-252). Не дапускаецца, аднак, каб вернікі самі падыходзілі да алтара і самі спажывалі з келіха Кроў Пана. Такі спосаб зарэзерваваны толькі для святароў, каторыя цэлебруюць Эўхарыстыю. ККП ад 1983 года ў 925 каноне выражае, што, як правіла, свецкія прымаюць Св. Камунію ў постаці хлеба, аднак у некаторых выпадках, акрэсленых уладай Касцёла, таксама могуць прымаць і ў постаці Крыві Пана. І ў выпадку неабходнасці, калі хтосьці не можа прымаць у постаці хлеба, той прымае ў постаці віна (гл. ЕМ 41). Мясцовы ардынарый з дазволу Кангрэгацыі Дактрыны Веры можа дазволіць ўдзяленне Св. Камуніі ў постаці віна толькі пацыентам з целіякіяй.

Як правіла, часцей за ўсё Св. Камунія ўдзяляецца шляхам апускання Гостыі ў Кроў Пана або шляхам непасрэднага піцця з келіха (№ 244-245). Ад чаго гэта залежыць? Гэта залежыць ад колькасці вернікаў, прысутных на св. Імшы. Падрабязнае апісанне таго, як можна прымаць Св. Камунію, апісана ў №246-247 Агульных уводзінаў у Рымскім Імшале.

Для ўдзялення Св. Камуніі пад дзвюма постацямі патрабуецца прысутнасць другога распарадчыка, звычайнага – святара альбо дыякана – ці надзвычайнага (акаліта ці проста надзвычайнага распарадчыка Св. Камуніі). Кожны пробашч адказны перад Богам за духоўнае акармленне паствы сваёй парафіі, таму выконвае прадпісанні Касцёла і адказна, з душпастырскім падыходам дастасоўвае іх да сітуацыі ў парафіі, у якой нясе сваё пастырскае служэнне.

# ПАЗНАВАЙКА

**Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!**

## Закрэслі лічбы і даведайся адказ

Нядаўна Святы Айцец прывітаў групу дзяцей з усходняй Украіны, дзе існуе ўзброенае супрацьстаянне. Даведайся, пра што спявалі хлопчыкі і дзяўчынкі Папу на сустрэчы. Адказ атрымаеш, калі закрэсліш усе лічбы, што схаваліся паміж літарамі. Запішы, што атрымалася.

______________________________________________

2П1Р7А
С5У9ПА9К4О1Й
86У21
С4В6ЕЦ1Е

**Звярні ўвагу, што атрыманы адказ – гэта галоўная тэма ў сённяшняй "Пазнавайцы".**

## Закрэслі лішняе

Закрэслі тыя малюнкі, якія не адпавядаюць слову "супакой". Растлумач свой выбар.



## Разблытай павуціну

На Блізкім Усходзе ў Сірыі, дзе ідзе вайна, асабліва моцна пакутуюць дзеці. Хлопчыкі і дзяўчынкі не маюць магчымасці вучыцца, у іх не хапае ежы, няма дома. Шмат дзяцей гіне. Чым ты можаш дапамагчы сваім сірыйскім аднагодкам даведаешся, калі разблытаеш павуціну з літарамі.

Адказ запішы.




______________________________

## Памаліся разам з бацькамі

Разам з бацькамі з любоўю ў сэрцы прачытай наступную малітву аб супакоі:

*Шчыра просім Цябе, Божа, аб супакоі ва ўсім свеце, у нашых сем'ях. Асвяці сваім святлом розум кіраўнікоў розных краін, каб яны забяспечвалі жыхарам мір і супакой. Натхні ўсіх людзей, каб сярод іх была ўзаемная любоў, каб яны імкнуліся зразумець іншых, а таксама прабачыць тым, хто ўчыніў ім крыўду. Амэн*

## Выберы словы

Што ты павінен рабіць, каб у нашай краіне, у нашых сем'ях быў мір і супакой? На дарожным указальніку выберы падыходзячыя словы, а непатрэбныя закрэслі.




## Расшыфруй слова

Расшыфруй наступнае слова. Адказ запішы.
Як ты разумееш выказванне, якое атрымалася?

**Дзе няма ___________, няма супакою.**




## Адгадай словы

Якімі словамі пасля свайго Уваскрасення Езус прывітаў сабраных у Вячэрніку апосталаў. Адказ даведаешся, выпісаўшы кожную трэцюю літару.

**ПРМАПІНФР**
**ПЫВКЦАГНМ**

______________________

______________________

## Намалюй птушку

Разам з бацькамі ўважліва прачытай у Бібліі, у Кнізе Быцця ў раздзеле 8-ым вершы з 8-мага па 11-ты. (Быццё 8:8-11). Прачытаўшы, даведаешся, якая птушка прынесла Ною ў дзюбе аліўкавую галінку як знак прымірэння стыхіі. Гэтая птушка лічыцца сімвалам міру



*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Ірына Радзевіч***

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**23 кастрычніка 2016 г.**
***Лк 18, 9-14***

Фарысей – гэта сімвал чалавека, які для сябе і сваёй уласнай славы робіць розныя ўчынкі. Бог для яго толькі фон, на якім ён разыгрывае сваю гульню. Ён разлічвае толькі на свае магчымасці, не шукае Божай ласкі і ўвогуле робіць выгляд, быццам яна яму непатрэбная. Крывадушнік перакананы ў сваёй справядлівасці і ідзе дарогай фальшывай пабожнасці.

Мытнік – грэшны чалавек. Ён ведае праўду пра сябе і з пакорай прызнае яе перад Богам. Такія паводзіны робяць яго здольным прыняць Божае прабачэнне. Ён верыць у Божую міласэрнасць і засяроджаны не на сабе, а на Богу, Які адорвае.

*– Ці шукаю я Божай волі?*

*– Ці разважаю над Божым словам, каб зразумець Божую волю?*

*– Ці выконваю Божую волю?*

*– А можа, карыстаюся Богам, каб выконвалася мая воля?*

*– Ці сыходзяцца мае думкі, мары і жаданні з Божай воляй?*

*– Ці змяняю я сваю волю, каб рабіць тое, што Ён хоча?*

*– На каго я спадзяюся: на сябе ці на Бога?*

*– Ці дазваляю Богу дзейнічаць у маім жыцці?*

*– Ці іду за Яго натхненнямі?*

*– Ці прымаю дапамогу, якую Ён мне прапаноўвае праз Касцёл і іншых людзей?*

*– Ці шукаю Божай ласкі?*

*– Ці малюся?*

*– Ці прымаю Святую Камунію?*

*– Ці спавядаюся?*

*– Ці перакананы я ў сваёй праведнасці?*

*– А можа, кажу, што грахоў не маю?*

*– Ці бачу недасканаласці сваёй любові?*

*– Ці не развіваю ў сабе фальшывую – без Бога – пабожнасць?*

*– Ці ведаю праўду пра сябе?*

*– Ці нясу свае слабасці з пакорай і даверам, як мытнік, Богу?*

*– А можа, ёсць такія справы, якіх не давяраю Богу?*

*– Ці веру ў Божую любоў?*

*– Ці веру, што яна датычыць і мяне?*

**30 кастрычніка 2016 г.**
***Лк 19, 1-10***

Часта, здзяйсняючы добрыя ўчынкі, мы хочам як бы "пахваліцца" перад Богам, звярнуць на сябе Яго ўвагу, быццам наша дабрыня паходзіць ад нас і з'яўляецца толькі нашай заслугай. Тым часам Бог глядзіць на ўсіх нас з любоўю, і ўсе мы маем свае грахі. Бог заўважае чалавека, які Яго шукае, і дзеля гэтага пераадольвае розныя цяжкасці так, як Закхей з сённяшняга Евангелля. Калі шукаем Бога, то Ён прыходзіць у наша жыццё, бо нашы пошукі робяць наша сэрца здольным прыняць дар Божай прысутнасці. А Божая прысутнасць у жыцці чалавека натхняе яго да чарговых крокаў у духоўным развіцці. Такім чынам адбываецца наша збаўленне.

*– Ці шукаю я Бога?*

*– Якія перашкоды перамагаю, каб ісці да Езуса?*

*– Ці ўмею хоць на хвіліну пакінуць свае справы, каб зрабіць крок да Яго?*

*– Ці гатовы я "залезці на дрэва", каб убачыць Езуса?*

*– Што раблю, калі Бог хоча больш сур'ёзна ўвайсці ў маё жыццё: запрашаю Яго ці ўцякаю?*

*– Што раблю з натхненнямі Святога Духа, каб лепш і больш маліцца? Каб паспавядацца? Каб любіць?*

*– Ці бачу, як распаляе мяне Божая прысутнасць, калі іду за Божымі натхненнямі?*

*– А можа, раблюся маладушным?*

*– Ці дазваляю Богу сябе збаўляць?*

*– А можа, стаўлю мяжу і кажу, што больш не дазваляю вучыць сябе любові?*

**6 лістапада 2016 г.**
***Лк 20, 34-38***

Мы не ведаем дакладна, як будзе выглядаць шчасце ў небе. Езус аб'яўляе, што ў небе будзем жыць у рэчаіснасці, якая перарастае ўмовы жыцця на зямлі. Калі на зямлі шчасцем бывае абранніцкая любоў, блізкасць мужа, жонкі, то ў небе будзе яшчэ большае шчасце. Неба – гэта дасканалая еднасць з Богам, Які з'яўляецца дасканалым Дабром, Шчасцем і Прыгажосцю. Бог дакладна выконвае свае абяцанні, якія даў патрыярхам.

*– Ці не прасякнутая мая вера матэрыялізмам?*

*– Ці разумею, што Бог перарастае свет, які стварыў?*

*– Ці памятаю, што адкрыццё свайго сэрца і жыцця на Бога – гэта адкрыццё на рэчаіснасць, якая мяне перарастае?*

*– Ці разумею, што Бог усё бачыць не так, як мы, не паводле зямных прынцыпаў, а па-Божаму, і Яго бачанне перарастае наша разуменне рэчаіснасці?*

*– Ці выпадкова, калі штосьці не супадае з маім чалавечым разуменнем, не дазваляю Богу дзейнічаць?*

*– Разважаючы пра веру і духоўныя справы, ці не абапіраюся часам толькі на свой жыццёвы вопыт, не беручы пад увагу, што Бог аб'явіў у гэтай ці іншай справе?*

*– Ці не маю пагрозы матэрыялістычнага або толькі чалавечага падыходу да Божых спраў у маім жыцці? Што кіруе маім жыццём: Божая воля ці мае адчуванні і пачуцці?*

*– Як я ўяўляю сабе неба, вечнае жыццё? Ці хачу такой вечнасці?*

*– Ці супадае гэта ўяўленне з навукай Касцёла і Хрыста?*

**13 лістапада 2016 г.**
***Лк 21, 5-19***

Хрысціянін не можа жыць, думаючы толькі пра матэрыяльныя і часовыя каштоўнасці. Трэба клапаціцца, каб не разбураўся свет нашага сэрца. Галоўным для нас павінен стаць клопат, каб не разбурыць Божага валадарства ў сваім сэрцы і сэрцах іншых людзей. На жаль, гісторыі чалавецтва спадарожнічаюць катаклізмы, беды, войны. Трэба пазбягаць непатрэбных спекуляцый і сенсацый на гэтыя тэмы. Не варта таксама бегаць за фальшывымі прарокамі, абазнанымі пра канец света. Вучань Хрыста павінен падтрымліваць у сабе гатоўнасць сведчыць пра Хрыста аж да смерці. Вучні Хрыста заўсёды ў дарозе. Ён – наша Дарога і Ён – Мэта гэтай дарогі. Кожны дзень хрысціянін павінен аднаўляць у сабе гэтую свядомасць.

*– Што з'яўляецца каштоўнасцю ў маім жыцці?*

*– Ці цаню духоўныя каштоўнасці?*

*– Ці памятаю пра часовасць свайго зямнога існавання?*

*– Ці падштурхоўвае мяне гэта свядомасць да прымання Божых дароў з радасцю і ўдзячнасцю?*

*– А можа, не цаню людзей, якімі Бог мяне адарыў?*

*– Пра што больш клапачуся: пра вечныя справы ці справы часовыя?*

*– Ці разумею, што ўсё ад Бога і няма без Яго нічога каштоўнага?*

*– Ці ведаю і ці давяраю вучэнню Бога пра справы таго свету?*

*– Ці жыву ў радаснай свядомасці, што мой Бог – Пан вечнасці і Пераможца смерці?*

*– Ці схільны я паддавацца фальшывым прароцтвам?*

*– Ці давяраю аўтарытэту Касцёла і яго вучэнню?*

*– Ці сведчу пра Хрыста ў хвіліны выпрабавання?*

*– Ці гатовы я з Божай дапамогай ахвяраваць сваё жыццё за Хрыста?*

*Разважанні падрыхтаваў*
***кс. Павел Кнурэк***
*www. lyntupy.by*

# Сёння ў продажу ці Сёння ў продажы? Сядзець на дасе ці Сядзець на даху?: як правільна па-беларуску?

**У папярэднім нумары "Каталіцкага Весніка" мы разгледзелі асаблівасці ўжывання канчаткаў назоўнікаў другога скланення мужчынскага роду адзіночнага ліку ў родным склоне *("Якое ўжыванне нарматыўнае: Прыехаць з Віцебску ці Прыехаць з Віцебска?" – № 9, с. 15).***

**Юрась Бабіч,** *кандыдат філалагічных навук*

Згаданая група назоўнікаў часта няправільна выкарыстоўваецца і ў месным склоне. Напрыклад, як трэба ўжываць: *на аўтамабіле* ці *на аўтамабілі*, *пры маім хлопцы* ці *пры маім хлопцу*, *ездзіць па гораду* ці *ездзіць па горадзе*, *сядзець на дасе* ці *сядзець на даху*? Паспрабуем разабрацца.

У месным склоне назоўнікі другога скланення мужчынскага роду адзіночнага ліку маюць канчаткі **-е**, **-і**, **-ы**, **-у**, **-ю**. Гэта залежыць ад лексічнага значэння слова і цвёрдасці / мяккасці апошняга зычнага асновы. І неабходна заўсёды памятаць, асабовы назоўнік ці не. Гэта значыць, абазначае ён назву асобы або нешта іншае.

Канчатак **-е** маюць неасабовыя назоўнікі з цвёрдай асновай, а таксама з асновай на **г**, **х**, якія чаргуюцца з **з'**, **с'**: *стол – на стале, дом – у доме, горад – у горадзе, снег – на снезе, кажух – у кажусе*. Некаторыя назоўнікі з цвёрдай асновай пад націскам ужываюцца з канчаткам **-у**: *на хаду, на ляту, на бягу, на скаку*.

Неасабовыя назоўнікі з мяккай асновай маюць канчатак **-і**: *дзень – пры дні, аўтамабіль – на аўтамабілі, май – у маі, гай – у гаі, цень – у цені*.

Неасабовыя назоўнікі з асновай на зацвярдзелы выкарыстоўваюцца з канчаткам **-ы**: *дождж – на дажджы, гараж – у гаражы, вецер – на ветры, продаж – у продажы, шалаш – у шалашы*. Канчатак назоўніка *двор* у месным склоне залежыць ад значэння слова ў канкрэтнай сітуацыі ўжывання. Калі *двор* абазначае "месца каля будынкаў", то ўжываецца з канчаткам **-ы**: *У двары дома стаяць машыны; На нашым двары сабралася шмат людзей*. Калі ж слова *двор* рэалізуе значэнне "на свежым паветры", то назоўнік выкарыстоўваецца з канчаткам **-э**: *На дварэ сёння халодна; У хаце суха, а на дварэ вільготна*.

Канчатак **-у** маюць асабовыя назоўнікі з асновай на зацвярдзелы і некаторыя асабовыя з асновай на цвёрды: *пры цару, пры дырэктару, пры Багдановічу, пры хлопцу, пры Мележу, пры сыну* (дапушчальна і *пры сыне*), *пры брату* (дапушчальна і *пры браце*). Заўсёды канчатак **-у** маюць назоўнікі з асновай на **к**. Прычым не істотна, асабовы гэта назоўнік ці не: *настаўнік – пры настаўніку, узгорак – на ўзгорку, мастак – пры мастаку, узлесак – на ўзлеску*. Пэўная група ўласнабеларускіх назоўнікаў з асновай на **г**, **х** паслядоўна ўжываецца з канчаткам **-у**, калі не адбываецца чаргавання з **з'**, **с'**: *мех – у мяху, дух – у духу, рух – у руху, подзвіг – у подзвігу, сцяг – на сцягу*. Таксама не адбываецца чаргавання і ў многіх словах неславянскага паходжання: *маналог – у маналогу, Ганконг – у Ганконгу, рынг – на рынгу*. Назоўнік *Пецярбург* ужываецца пераважна з канчаткам **-е**, паколькі слова добра асвоенае нашай мовай: *у Пецярбурзе*. Пры гэтым словаформа *ў Пецярбургу* з'яўляецца варыянтнай.

Канчатак **-ю** маюць асабовыя назоўнікі з мяккай асновай: *каваль – пры кавалю, герой – пры герою, Андрэй – пры Андрэю, Васіль – пры Васілю*.

Такім чынам, па-беларуску правільна будзе казаць, напрыклад, *Сёння ў продажы, сядзець на даху, ездзіць пры аўтамабілі, сказаць пры хлопцу*.

# Аліна Новікава: “Не лянуйцеся маліцца за памерлых”



**Падчас пастырскай сустрэчы для духавенства і кансэкраваных асоб, якая адбылася ў Мёрах, стала вядома, што з бласлаўлення біскупа Алега Буткевіча ў Віцебскай дыяцэзіі распачаў дзейнасць рух Апостальства дапамогі душам чысцовым (АДДЧ).**

З гэтай нагоды “Каталіцкі Веснік” вырашыў даведацца падрабязней пра названы рух і паразмаўляў са спадарыняй Алінай Новікавай, аніматаркай, адказнай за рух.

Пра ўзнікненне руху і яго дзейнасць спадарыня Аліна распавядае: “Апостальства дапамогі душам чысцовым – духоўная сям’я Кангрэгацыі сясцёр памочніц душ чысцовых (заснавальнік – бл. Ганарат Казьмінскі), запачаткаваная сёстрамі амаль трыццаць гадоў назад. Першымі ініцыятарамі Апостальства свецкіх былі жанчыны, якія страцілі дарослых ужо дзяцей і, усведамляючы патрэбу малітоўнай дапамогі ўсім памерлым, папрасілі сясцёр арганізаваць малітоўную супольнасць, а таксама пачалі заахвочваць да гэтай справы іншых. Рух вельмі хутка распаўсюдзіўся па парафіях Польшчы і налічвае сёння дзясяткі тысяч католікаў. Асноўная харызма гэтага руху – дапамагаць памерлым, якія церпяць у чысцы, малітвай, ахвяраваннем цярпенняў, міласцінай і добрымі ўчынкамі”.

Аніматарка адзначае, што на сённяшні дзень у Беларусі да Апостастальства належаць каля 6 тысяч вернікаў.

“Першымі ў нашай краіне, хто далучыўся да Апостальства, былі вернікі з парафій Гродзенскай дыяцэзіі, якія пачалі маліцца яшчэ з 1995 года. Потым далучыліся вернікі Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Пінскай дыяцэзіі, – гаворыць спадарыня Аліна. – Сёстры Кангрэгацыі і ўсе сябры Апостальства вельмі ўзрадаваліся, што біскуп Алег Буткевіч падтрымаў просьбу пра распаўсюджванне руху ў Віцебскай дыяцэзіі і прызначыў адказнага святара за гэты малітоўны чын – айца Лукаша Красінскага”, – адзначае яна і выказвае надзею, што на Віцебшчыне вернікі, манахіні і святары актыўна падтрымаюць гэтую малітоўную місію.

Спадарыня Аліна падкрэслівае: “Калі нашы родныя паміраюць, то кожны з нас спадзяецца, што яны будуць шчаслівыя ў вечнасці. Але наша зямное жыццё – гэта час таксама Божай міласэрнасці для нас, які заканчваецца ў момант нашай смерці. Наша вечнасць залежыць ад таго, як кожны з нас пражывае сваё жыццё на зямлі. Менавіта пасля смерці пачынаецца час Божай справядлівасці – так вучыць Каталіцкі Касцёл: “Смерць – гэта канец зямнога пілігрымавання чалавека, часу ласкі і міласэрнасці, падараванага Богам, каб рэалізаваць зямное жыццё згодна з Божаю задумаю і вызначыць свой канчатковы лёс” (пар. ККК 1013). Мы не ведаем, хто з нашых родных памерлых ужо радуецца небеснай хвале, а хто яшчэ церпіць у чысцы. Усім нам трэба памятаць пра часовасць зямнога жыцця і нястомна клапаціцца, каб жыццё нашае не было бессэнсоўным і не скончылася вечнаю згубаю”.

“Кожны дзень мы чуем сумную інфармацыю пра нечаканую смерць многіх людзей у выніку розных катастроф, войнаў, тэрактаў, рознага кшталту аварый і няшчасных выпадкаў. Наўрад ці ўсе гэтыя людзі належным чынам былі падрыхтаваныя да такога нечаканага адыходу ў іншы свет існавання і да сустрэчы з Панам Богам. Малітоўная падтрымка вельмі патрэбная і ўсім, хто знаходзіцца на мяжы смерці, бо менавіта ў гэты момант, як лічаць многія багасловы, часта вырашаецца лёс чалавека ў вечнасці: міласэрны Бог чакае навяртання грэшніка да апошняга яго ўздыху. Таму так важна малітва пры тых, хто адыходзіць”, – дадае спадарыня Аліна.

Усіх вернікаў удзельніца Апостальства заахвочвае да малітвы за памерлых: “Набліжаецца лістапад – месяц асаблівых малітваў за нашых родных і блізкіх памерлых. Аднак не лянуйцеся маліцца за нашых памерлых і за душы чысцовыя кожны дзень. Яны цярпліва чакаюць нашай падтрымкі – падтрымкі малітвай, ахвяраваннем сваіх цярпенняў, працы, цяжкасцяў. Засяроджаная малітва – усяго толькі на працягу некалькі хвілін – не зробіць нам клопатаў, але прынясе палёгку душам, якія аддзячаць сваім заступніцтвам. Заахвочваю далучацца да Апостальства дапамогі душам чысцовым, каб разам выпрошваць для іх неба”.

Варта адзначыць, што да руху Апостальства можа належаць кожны католік-практык незалежна ад сацыяльнага стану і ўзросту, які прагне несці дапамогу душам чысцовым.

Той, хто вырашыў далучыцца да Апостальства дапамогі душам чысцовым, павінен запоўніць і асабіста падпісаць “Анкету ўдзельніка”. Перадаць яе можна пробашчу Вашай парафіі або выразаць і самастойна даслаць на адрас:

**Аліне Новікавай**
**а/с 101**
**220002 г. Мінск-2**

*Гутарыла* ***Ірына Радзевіч***





## Анкета ўдзельніка Апостальства дапамогі душам чысцовым

1. Імя, прозвішча ..........................................................
2. Дата нараджэння ..........................................................
3. Дакладнае месца жыхарства, тэлефон ..........................................................
..........................................................
..........................................................
4. Сямейны стан ..........................................................
5. Прафесія ..........................................................
6. Парафія ..........................................................
7. Дыяцэзія ..........................................................
8. Прыналежнасць да касцельных суполак (напр., Трэці Закон, Жывы Ружанец і інш.) ..........................................................
..........................................................
9. Месца і дата ўступлення ў АДДЧ ..........................................................
..........................................................
Асабісты подпіс..........................................................


Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне “Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Выдавец:** рэлігійная місія “Дабрачыннае каталіцкае таварыства “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты “Каталіцкі Веснік”, перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП “Віцебская абласная друкарня”, г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 6369

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3200 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 20.10.2016 г. у 10.14

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:**
211800, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь